# Голас Радзімы

ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

№ 50 (2296) 10 снежня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

## У БЕЛАРУСІ ЎПЕРШЫНЮ БЫЛІ АДЗНАЧАНЫ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ




28 лістапада 1992 года ў вёсцы Семежава, дзе некалі размяшчаўся штаб Слуцкага паўстання, быў устаноўлены і асвячоны святарамі крыж змагарам, што палеглі за незалежнасць Беларусі.

З успамінамі аб сустрэчах са слуцкімі паўстанцамі выступіў былы настаўнік мясцовай школы Мікалай Аляшкевіч (на здымку — ля мікрафона).

(Пра ўгодкі Слуцкага паўстання чытайце на стар. 3 «Благаславіць ці праклясці!»).

## МЕТАМАРФОЗЫ БЕЛАРУСКАГА «ЗАПАДНО-РУССИЗМА»

# ТЭРЫТОРЫЯ ЦІ НАЦЫЯ?

«Я ўбачыў і зразумеў, што і ў Беларусі Беларусі ўжо няма. Яе зрабілі тэрыторыяй Саюза, прахадным дваром».

**Ул. ДАМАШЭВІЧ. Мітынговая аповесць.**

— Рускія?

— Не, беларусы.

— Фшыстко едно, рускія.

Спрачацца не выпадала...

**З дыялога польскага пагранічніка з беларускімі турыстамі. (ЛіМ, 1992, 17 крас.).**

Калі б спатрэбілася адным толькі словам выказаць глыбіню нацыянальнага заняпаду беларусаў, слова такое ёсць: «западно-руссизм». Азначэнне «беларускі» ў звязцы з ім парадаксальна адцяняе трагікамізм таго грамадскага і псіхічнага стану, пры якім вынішчэнне нацыянальнае тоеснасці народа адбываецца ад ягонага імя і нават вуснамі, рукамі ягоных гадаванцаў. Ці не над недарэчнасцю паўсталых абставін некалі з горыччу засяроджваўся Паэт-прарок: «У батракі пайшлі ўнукі і топчуць прадзедавы косці» (Янка Купала)? «Западно-руссизм», здаецца, і ёсць палітычным, духоўным жабрацтвам, торбай жабрачай на шыі, якую змушаны ў пэўнай ступені й прывучаны цягаць беларус. І цягае каторае ўжо стагоддзе. Нават не з прычыны свае нішчымнасці (не абдзелены ж ён ад прыроды, як і кожан іншы народ, ні багаццем, ні кляйнотамі), але найбольш праз сваю рахманасць беларускую, прыцярпеласць адвечную. Ці не з гэтых і падобных «цнотаў» яшчэ не так даўно маладыя філосафы на Беларусі (многія з іх павырасталі ўжо на дактароў і нават акадэмікаў) выводзілі своеасаблівыя заканамернасці беларускага лёсу, здабываючы сабе навуковыя ступені, а народу — перспектыву самагубцы.

Прыклад: «Из всех наций Советского Союза белорусская нация проявляет наибольшую тенденцию к переходу на литературный язык русского народа». Таму «постепенный добровольный переход белорусов на литературный язык русского народа является зако-

(Працяг на 7-й стар.).

### ПАВАЖАНЫЯ СУАЙЧЫННІКІ ДАЛЁКАГА ЗАМЕЖЖА!

**У сувязі з вялікім падаражаннем кошту выданняў, даводзім да вашага ведама, што ў 1993 годзе «Голас Радзімы» будзе дасылацца на Захад толькі на ўмовах валютнай падпіскі. Падпісацца на «Голас Радзімы» вы зможаце ў контрагентаў і фірмах, якія супрацоўнічаюць з асацыяцыяй «Міжнародная кніга» і знаходзяцца ў краінах вашага пражывання. Індэкс газеты 63854, падпісная цана 58 долараў ЗША на год.**

**Адрасы прадстаўніцтваў «Міжнароднай кнігі» за мяжой будуць надрукаваны пазней. Сачыце за нашымі аб'явамі.**

## РЭПАРТАЖ З КЛАС-КЛУБА

# БІЗНЕСМЕНЫ БАВЯЦЬ ЧАС

Яшчэ не так даўно традыцыйнай тэмай нашай прэсы была «Нью-Йорк (Стамбул, Парыж. Рым і далей на захад)—горад кантрастаў». Сёння не трэба ездзіць за мяжу: ролю такога горада можа адыграць амаль што любы населены пункт на неабсяжнай прасторы СНД. А што ўжо гаварыць пра яе сталіцу... Сацыяльнае становішча тут усё больш выразна падзяляе людзей. І з'яўленне ў Мінску клуба мільянераў, бізнесменаў ці проста заможных людзей (называйце, як хочаце, самі ж яны назвалі яго Класклуб) толькі пацвярджае сённяшнія рэаліі нашаг жыцця.

Пра тое, як установы такога тыпу выглядаюць «там», мы ўжо добра ведаем хаця б з дэтэктыўных раманаў Чэйза. А вось як у нас? Каб пабачыць усё на свае вочы, у перапоўненым аўтобусе па цёмных вуліцах ваш карэспандэнт адправіўся ў «капіталістычны рай».

Да невялікага будынка, на вуліцы Веры Харужай, абнесенага неахайным драўляным плотам (побач ідзе рамонт), пад'язджалі шыкоўныя машыны замежнай вытворчасці, «Волгі» і таксі. З мяккім цмоканнем адчыняліся фірмавыя дзверцы, і ногі пасажыраў, абутыя ў раскошныя «саламандры» і зграбныя туфлікі адразу траплялі ў непралазную гразь. Калі б прыхільнікі сацыяльнай справядлівасці ў гэты момант апынуліся ля ўваходу ў Клас-клуб, іх дэмакратычныя пачуцці былі б цалкам задаволены: наша жыццё не прыстасавана ні для бедных, ні для багатых. А ў тым, што тут збіраюцца пераважна заможныя людзі, сумнявацца не прыходзілася: абанемент на паўгода і задавальненне два ра-

(Заканчэнне на 3-й стар.).



Фота Віктара СТАВЕРА.

БЕЛАРУСЬ І СВЕТ

## ДАВЕР ДА ЎЛАДАЎ

— Па цэламу шэрагу пытанняў я катэгарычна супраць таго, каб нам дапамагалі, бо лічу: мы павінны ўласнай працай паляпшаць сваё жыццё, — заявіў Старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі Станіслаў Шушкевіч на сустрэчы з прадстаўнікамі нямецкай зямлі Ніжняя Саксонія, якія нядаўна наведалі Беларусь. — А вось дапамогу дзецям прымаю ў любой форме і вельмі ўдзячны дабрачыннаму фонду зямлі Ніжняя Саксонія «Дзеці з Чарнобыля» за ўвагу і падтрымку. Такія чалавечыя кантакты ўмацоўваюць імунітэт нашай нацы да радыефобіі.

Кіраўнік беларускай дзяржавы, падкрэсліўшы присутнасць у саставе дэлегацыі прэзідэнта Ландтага зямлі Ніжняя Саксонія Хорста Мільда, заўважыў таксама, што ў свеце мацнее давер'е да парламента і ўрада нашай рэспублікі. Калі раней многія краіны ў асноўным аказвалі гуманітарную дапамогу праз недзяржаўныя структуры, то цяпер часта супрацоўнічаюць з уладамі. Ён з адабрэннем адгукнуўся аб намеры нямецкага фонду ўзяць пад сваю апеку праграму аздараўлення людзей, якія пражываюць у зоне жорсткага радыяцыйнага кантролю. Урад зямлі Ніжняя Саксонія выдзеліў фонду «Дзеці з Чарнобыля» на гэту дабрачынную акцыю 3 мільёны марак.

ФЕРМА ШЫНШЫЛЫ

**Шыншыла — паўднёваамерыканскі звярок, футра якога на міжнародных аўкцыёнах ацэньваецца ўтрая даражэй за норку, з'явіўся і ў нас у рэспубліцы. Унікальная ферма створана ў калгасе «17 верасня» Баранавіцкага раёна. Пакуль у вальерах каля чатырохсот звяркоў. У будучым годзе іх пагалоўе мяркуецца давесці да тысячы.**

**Калгас «17 верасня» — гаспадарка зверагадоўчая. У асноўным тут гадуюць норак, але ёсць і тхары, яноты. Ад рэалізацыі пушніны летась атрымана звыш пяці мільёнаў рублёў. У гэтым годзе мяркуецца, што лічба будзе вышэйшая, бо цэны на футра растуць.**



**НА ЗДЫМКУ: намеснік кіраўніка зверафермы Яніна ДАЛМАЦКАЯ задаволена якасцю футра сёлетняга сезона.**

ЦАРКОЎНЫЯ НАВІНЫ

## НІЯКІХ АБМЕЖАВАННЯЎ

У Беларусі зарэгістравана 1 400 рэлігійных абшчын. З іх толькі за апошнія 3 гады створана 760. Экзархат Беларускай праваслаўнай царквы складаецца з 10 епархій.

Працуюць духоўнае вучылішча, якое рыхтуе ніжэйшыя чыны, што абслугоўваюць царкву, і Мінская духоўная семінарыя. Паступіць у семінарыю можа любы жадаючы, ніякіх абмежаванняў па нацыянальнай прыкмеце не ўводзіцца. Вышэйшая навучальная ўстанова адкрыта вось ужо чацвёрты год. На сённяшні дзень там вучацца 160 студэнтаў. Праваслаўнай царкве ўдалося адрадзіць сястрыцтва. Так, больш ста добраахвотнікаў уваходзіць у Таварыства міласэрнасці імя Софіі Слуцкай. Іх абавязкі — дапамога цяжкахворым.

ТРАГІЧНА, АЛЕ ФАКТ

**Страшней за радыяцыю аказаліся міжнацыянальныя канфлікты для сям'і Сазанчук. Юрый — у мінулым маракпадводнік — разам з жонкай Галінай і двума дзецьмі (на здымку) вырашылі пакінуць у Рызе наседжанае месца і вярнуцца ў родную Беларусь. У Нароўлі знайшлася ім і работа, і чатырохпакаёвы катэдж для жылля.**

**Выпадак гэты на Гомельшчыне — не адзіны. У Нараўлянскім раёне, вядомым як зона радыеактыўнага заражэння, знайшлі прытулак прыезджыя з многіх гарачых кропак былога Савецкага Саюза — з Баку, Грознага, Прыднястроўя, Прыбалтыкі. Небяспека быць уцягнутымі ў крывавыя канфлікты здалася ім больш грознай, чым вынікі пражывання ў забруджанай зоне.**



ВЕЧАРЫ

## РОДНАМУ КРАЮ

— ...А як песню заспяваю
Аб знішчоным нашым краі... —

спявае вядомы кампазітар, народны артыст СССР Ігар Лучанок сваю песню «Роднаму краю», напісаную ім на верш Я. Коласа, створаны паэтам яшчэ ў 1914 годзе. Больш як праз 70 гадоў верш стаў песняй. Пра свае творы, звязаныя з імем і творчасцю Якуба Коласа, І. Лучанок расказваў на вечары «Якуб Колас у музыцы», прысвечаным 110-й гадавіне з дня нараджэння паэта.

Сын пісьменніка Даніла Міцкевіч расказаў пра творчасць беларускіх кампазітараў А. Багатырова, Ю. Семянякі, Г. Пукста, К. Галкоўскага і іншых, якая звязана з творчасцю бацькі.

Арыі з опер «Новая зямля», «У пушчах Палесся», рамансы і песні беларускіх аўтараў выконвалі салісты Дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета РБ заслужаная артыстка Н. Казлова, І. Адзінцова і В. Стральчэня.

Цёпла прымалі слухачы і народную артыстку Беларусі М. Захарэвіч, якая чытала творы Я. Коласа.

У канцэртнай праграме прынялі ўдзел кампазітары і выканаўцы барды Алег Атаманаў і Валерый Пазнякевіч, а таксама канцэртмайстры заслужаны артыст РБ Г. Карант і Мікалай Сярдобаў.

НАША ЗДАРОЎЕ

## ТУБЕРКУЛЁЗ НАСТУПАЕ

Сталічныя медыкі б'юць трывогу: адной з галоўных праблем у Мінску застаецца туберкулёз. Асноўная колькасць захварэўшых прыпадае на ўзрост ад 20 да 49 гадоў. Летась толькі ў навучальных установах выяўлена 20 студэнтаў і навучэнцаў і 11 супрацоўнікаў з актыўнымі формамі гэтага страшнага захворвання. Сярэдні паказчык сёння па Мінску — 21,4 «туберкулёзніка» на 100 тысяч насельніцтва.

А быў час, калі ў нас нават забыліся, што такое туберкулёз.

МІНІ-АНАЛІЗАТАР

## У СОРАК РАЗОЎ ХУТЧЭЙ

Першы айчынны глюкамер — прыбор для вызначэння ўтрымання цукру ў крыві чалавека — створаны ў Мінскім Навукова-даследчым інстытуце радыёматэрыялаў. Уся працэдура займае толькі адну мінуту — у 40 разоў хутчэй, чым традыцыйным спосабам з дапамогай рэактываў. Навінка дазваляе хворым на дыябет, а таксама тым, у каго павышанае ўтрыманне цукру ў крыві, самім кантраляваць сваё здароўе, устанаўліваць час і дозу ўвядзення інсуліну. Насіць з сабою экспрэс-аналізатар ніцяжка: ён важыць усяго дзвесці грамаў.

Міні-аналізатар дае магчымасць падтрымліваць працаздольнасць чалавека, эканомна расходаваць дэфіцытны інсулін.

СТАТЫСТЫКА СВЕДЧЫЦЬ

## РУШЫЛІ З МЕСЦА

Дзяржкамстат Рэспублікі Беларусь падвёў вынікі работы прамысловасці за 11 месяцаў бягучага года. Яны сведчаць аб паступовым паляпшэнні работы гэтай галіны. Калі ў студзені—жніўні зніжэнне аб'ёмаў прамысловай вытворчасці ў параўнанні з адпаведным перыядам мінулага года складала 14,2 працэнта, то ў верасні—10,8, у кастрычніку—5,8, у лістападзе ўжо дасягнуты рост вытворчасці на 1,3 працэнта.

Палепшылася работа многіх галін прамысловасці. У лістападзе прадукцыя машынабудавання павялічылася на 2,6 працэнта, лёгкай прамысловасці—на 6,4, харчовай—на 3, лясной і дрэваапрацоўчай—на 2 працэнты. Аднак захоўваецца значнае зніжэнне вытворчасці ў паліўнай прамысловасці з-за змяншэння паставак нафты.

ПАСЛЯ СПРАВАЗДАЧНА-ВЫБАРЧАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ БФК

# АДДАЧА АД КУЛЬТУРЫ АДЧУВАЕЦЦА НЕ АДРАЗУ

Беларускі фонд культуры адзначыў сціплы пяцігадовы юбілей. Але і за такі кароткі час гэтай грамадскай арганізацыяй зроблена нямала дзеля адраджэння нацыянальнай беларускай культуры, мовы, вяртання народу яго духоўнай спадчыны. У канцы лістапада адбылася канферэнцыя БФК, на якой яго старшыня пісьменнік Іван Чыгрынаў зрабіў справаздачу і расказаў пра планы на бліжэйшую будучыню.

Фонд культуры з'явіўся ў складаны палітычны час, калі ўзрасла прага нашага народа да ўсведамлення і асэнсавання свайго месца ў агульначалавечай культуры, павялічылася цікавасць да вывучэння ўласнай гісторыі, адраджэння народных традыцый, з'явілася неабходнасць знайсці і вярнуць на Беларусь разрабаваныя, расцярушаныя войнамі і рэвалюцыямі скарбы нацыянальнай культуры.

У фонду багата шчырых прыхільнікаў і энтузіястаў, з дапамогай якіх былі створаны грамадскія камісіі па краязнаўству, фальклору, беларускай мове, вяртанню нацыянальных каштоўнасцей на радзіму, народных майстроў, мастацкі і бібліятэчны саветы, клуб калекцыянераў. Дзейнасць грамадскіх аб'яднанняў стала падмуркам для стварэння працуючых сёння таварыства краязнаўцаў, беларускай мовы імя Ф. Скарыны, Саюза кавалёў Беларусі. З кожным годам усё больш маляўнічымі і сапраўды народнымі і масавымі робяцца такія святы, як Каляды, Гуканне вясны, Купалле, Радаўніца, Дзяды і інш., дзеля адраджэння якіх многа зрабіў БФК. Пачынаў сваю работу фонд з распрацоўкі доўгатэрміновай праграмы «Спадчына», што сканцэнтравала ў сабе розныя аспекты беларускага нацыянальнага адраджэння. Узяты пад апеку дзяржавай, сёння выходзіць часопіс «Спадчына», узнаўляючы забытыя старонкі нашай мінуўшчыны.

«Любімае дзіця» фонду культуры — Камісія Рэспублікі Беларусь па вяртанню гісторыка-культурнай спадчыны, якую яшчэ чатыры гады назад утварыла група энтузіястаў. Сёння яе ўзначальваюць міністр культуры Я. Вайтовіч і дырэктар Навукова-асветнага цэнтра імя Скарыны А. Мальдзіс. Дзякуючы рабоце камісіі ўжо вернуты з далёкага замежжа і рэспублік былога СССР бясцэнныя творы мастацтва, гістарычныя каштоўнасці. На бліжэйшую будучыню прынята рашэнне аб зборы, вывучэнні і складанні каталога бібліятэкі Сімяона Полацкага. Прапанаваны цікавыя варыянты пошукаў Радзівілаўскіх каштоўнасцей, звязаныя з нядаўнім прыездам на Беларусь Эльжбеты Тамашэўскай з роду Радзівілаў. Мяркуецца вярнуць з Кіева на радзіму бібліятэку графа Буцянёва-Храптовіча. Здаецца, зайшлі ў тупік пошукі бясцэннага крыжа Ефрасінні Полацкай, які прапаў у час другой сусветнай вайны, але вядомая балгарская прадказальніца Ванга быццам бы сказала, што беларусам няма чаго хвалявацца: у хуткім часе крыж вернецца да іх.

Дарэчы, Беларускі фонд культуры і, ў прыватнасці, камісія «Вяртанне» падрыхтавалі зварот групы грамадскіх дзеячаў да кіраўніка беларускага ўрада і да кіраўнікоў урадаў краін Садружнасці з патрабаваннем дэнансаваць ташкенцкае пагадненне па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны, таму што яно носіць рэакцыйны характар і не адпавядае міжнародным пагадненням. У свой час (прыкладна год таму) яно выклікала абурэнне. Згодна з ім, немагчыма было не тое што вярнуць нацыянальныя гісторыка-культурныя каштоўнасці, вывезеныя за межы рэспублікі, а нават пазнаёміцца з імі ў музеях і архівах Расіі.

БФК па магчымасці займаецца вырашэннем культурных праблем прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей, што жывуць на беларускай зямлі. Пры яго аддзяленнях створаны культурна-асветніцкія аб'яднанні палякаў, украінцаў, рускіх, яўрэяў, татар, армян, азербайджанцаў. Яны маюць магчымасць вывучаць сваю гісторыю, мову, традыцыі, праводзіць вечары, удзельнічаць у фестывалях.

З такой жа ўвагай фонд культуры ставіцца да беларусаў, якія жывуць за межамі бацькаўшчыны, мае з імі сувязі. Іх прадстаўнікі наведваюць Беларусь, фонд культуры прымае ўдзел у найбольш значных мерапрыемствах, якія арганізоўваюць зямлякі замежжа.

У сваім дакладзе Іван Чыгрынаў падкрэсліў, што Беларускі фонд культуры не ўключаецца ў палітычную барацьбу, не прымае шкоднага, антыканструктыўнага ўплыву ні адной з існуючых партый. Зусім нядаўна фонд расстаўся з аб'яднаннем «Палессе», якое «адышло ад культурна-асветнай работы ў выніку гіпертрафіраванага ўяўлення аб сваёй быццам бы гістарычнай значнасці ў развіцці нашага грамадства», дзейнічала па ўказцы зверху.

Многа горкіх слоў было сказана на канферэнцыі аб гаротным стане культуры, якой не хапала і не хапае грошай, а ў дзяржавы яна заўсёды была на задворках.

Аддача ад культуры адчуваецца не адразу, сказаў І. Чыгрынаў, але абавязкова будзе, калі на яе працаваць. Цяжка і крыўдна, калі даводзіцца за культуру змагацца. Спадзяёмся, што новая дзяржава — незалежная Беларусь ёй дапаможа.

Д. ЧАРАПОВІЧ.

ВАКОЛ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ

# БЛАГАСЛАВІЦЬ ЦІ ПРАКЛЯСЦІ?

### У БЕЛАРУСІ ЎПЕРШЫНЮ БЫЛІ АДЗНАЧАНЫ ЎГОДКІ СЛУЦКАГА ПАЎСТАННЯ





Вакол падзей, што адбыліся ў Мінску і на Случчыне 27—29 лістапада гэтага года, тоўпіцца ў галаве рой думак. Калі паспрабаваць акрэсліць галоўную, то выдзеліў бы адну: мы пачуваемся вальней у сваім доме. І найпершы доказ таму ёсць факт, што сёння, пішучы пра Слуцкае паўстанне, мы не бяром гэтыя словы ў двукоссе, не замяняем іх выразамі «кулацкі мяцеж», «бандыцкае антысавецкае выступленне», не чапляем розных ярлыкоў.

Слухаючы кароткую прамову прафесара Анатоля Грыцкевіча падчас ускладання вянка пашаны на плошчы Незалежнасці ў Мінску да дома Эдварда Вайніловіча, у слуцкім доме якога 15—16 лістапада 1920 года адбыўся Першы Беларускі з'езд Случчыны, адзначаю, як свабодна ацэньвае вядомы гісторык падзеі тых даўніх часоў на Случчыне. Цяпер гэта ўжо не «контррэвалюцыйнае выступленне», як яшчэ пяць гадоў назад вымушаны быў пісаць Анатоль Грыцкевіч у кніжцы «Вакол «Слуцкага паўстання», якую з такімі неверагоднымі цяжкасцямі ўдалося выдаць у «Бібліятэчцы «Голасу Радзімы». «Не целесообразно!» — адказвалі рэдакцыі ў пэўных высокіх інстанцыях. Амаль паўтара года спатрэбілася, каб дамагчыся дазволу выдаць кніжку пра Слуцкае паўстанне, нават у тым, марксісцка-класавым варыянце, дзе было ўзята ў двукоссе ўсё, што толькі можна было ўзяць.

Як неаспрэчны факт канстатую слушную думку доктара гістарычных навук М. Біча, выказаную ім на навуковай акадэміі, прысвечанай Слуцкаму паўстанню: «Савецкая гісторыя або замоўчвала гэтую падзею, або характарызавала Слуцкае паўстанне як антынароднае, палітычны бандытызм або нават як выдумку беларускіх нацыяналістаў».

Здаецца, нарэшце, мы маем права ведаць усё, што было ў нашай гісторыі, і самі ўзважваць, аналізаваць і ацэньваць падзеі. Як не благаславіць час, калі гэта стала магчымым!

Спакойная атмасфера навуковай акадэміі, на якой былі спробы разабрацца ў тым, што ж адбывалася на Случчыне ўвосень 1920 года — сялянскае паўстанне ці збройны чын у абарону Беларускай Народнай Рэспублікі, — яшчэ раз прымусілі задумацца: а ўсё ж такі мы вучымся самастойна і вольна разважаць, не азіраючыся на сваіх суседзяў — будзе ім даспадобы наша трактоўка ці не? Сапраўды, падабаецца каму ці не, але сёння навукоўцы і палітыкі сцвярджаюць, што Слуцкае паўстанне выявіла ўзлёт нацыянальнай свядомасці, пачуццё годнасці беларусаў, іх гатоўнасць да барацьбы за незалежнасць Радзімы, што Слуцкае паўстанне было антыбальшавіцкім, накіраваным супраць татальнай харчовай развёрсткі, калі ў селяніна забіралі з засека апошняе зярнятка, супраць ленінскай палітыкі падзелу Беларусі паміж Польшчай і Расіяй без згоды на тое саміх беларусаў.

Калі разглядаць Слуцкае паўстанне як лагічнае звяно ў ланцугу падзей, звязаных з беларускім нацыянальна-вызваленчым рухам у 1917—1920 гадах, мэтай якога была свая дзяржаўнасць, то нельга не пагадзіцца з Васілём Быкавым, які сказаў на ўрачыстай вечарыне «Шляхам волі», што адбылася ў Доме літаратара ў Мінску: «У той даўняй падзеі былі шчырыя і светлыя памкненні, былі гераічныя ўчынкі, былі выдатныя людзі, патрыёты беларушчыны, што паклалі свае лёсы ў святую справу нашай суверэннасці».

Але можа мы занадта гларыфікуем тыя падзеі і заўчасна саджаем іх удзельнікаў на белых коней? Прыкладам, як гэта зрабіў мастак Л. Шчамялёў у карціне «Партрэт Булак-Балаховіча», што быў выстаўлены ў экспазіцыі суполкі «Пагоня» тут жа ў Доме літаратара. Аглядаючы яго, я ўспомніў, як напярэдадні ў радыёперадачы вымушаны быў абараняцца прафесар А. Грыцкевіч. На радыё пазваніла старая жанчына і запыталася: «Як разумець, што цяпер гераізуецца вобраз Булак-Балаховіча? Мае ж бацькі загінулі ў Мазыры ў час яўрэйскіх пагромаў, якія ўчынілі балахоўцы». Ва ўсякім разе, у падыходзе да Слуцкага паўстання выявіліся дзве тэндэнцыі: асцярожнае, але па-ранейшаму ўпарта адмоўнае стаўленне і суцэльная гераізацыя. Мне здаецца, можна зразумець і тую, і другую.

Цяпер мы хочам узнавіць памяць пра ўдзельнікаў Слуцкага паўстання. Але хто стаіць за гэтым «мы»? Увесь народ? Каб жа!..

На навуковай акадэміі гаварылася пра веліч і трагізм нашай гісторыі, што яскрава выявіліся ў Слуцкім паўстанні. Хачу зноў спаслацца на словы М. Біча: «Беларускі народ у масе сваёй, калі не лічыць невялікай праслойкі інтэлігенцыі, не быў падрыхтаваны да тых падзей, якія адбыліся ў 1917—1920 гадах. Трагізм той жа, які **мы назіраем і сёння** (падкрэслена мною.— **В. М.**). Маса беларускага насельніцтва не ўсведамляла сябе як беларусы, не ставіла перад сабой задачы стварэння сваёй незалежнай дзяржавы».

Нягледзячы на заклікі лідэра БНФ Зянона Пазьняка святыя даты святкаваць, не ўпадаць у журботу і не жаліцца на цяжкое жыццё, усенароднага свята на Беларусі не было. Яго адзначала «невялікая праслойка інтэлігенцыі», што належыць да адраджэнскай плыні. Адны і тыя ж людзі фактычна былі і на плошчы Незалежнасці, і на навуковай акадэміі, і на вечарыне. Яны ж аўтобусамі выправіліся ў суботу, 28 лістапада, у Семежава—Слуцк. Каб не яны, у Семежаве нават ніхто не згадаў бы пра Слуцкае паўстанне. Падзеі 72-гадовай даўнасці амаль што начыста вытравілі з памяці случчакоў. Не ведаюць тут пра іх ні як пра мяцеж, ні тым болей як пра паўстанне.

Дык што ж, праклінаць народ, які не памятае сваёй гісторыі і дбае сёння больш пра хлеб надзённы, чым пра духоўную пажыву?

У Слуцку ініцыятары святкавання ўгодкаў Слуцкага паўстання меліся адкрыць мемарыяльную дошку на доме, дзе адбываўся Першы Беларускі з'езд Случчыны. Гарадскія ўлады не дазволілі гэтага зрабіць. 29 лістапада ў Салігорскім краязнаўчым музеі мелася адкрыцца выстава, прысвечаная Слуцкім падзеям 1920 года. Гарвыканком забараніў пад пагрозай звальнення дырэктара музея, калі аслухаецца.



На акадэміі і вечарыне зачытваліся тэлеграмы ад БЦР і БНР, розных грамадскіх арганізацый замежных беларусаў, для якіх Слуцкае паўстанне — вялікае нацыянальнае свята. На запытанне кагосьці з прысутных: «А дзе ж віншаванні ад нашага ўрада?» — няёмкая паўза.

Можна абвінаваціць былых партакратаў, якія заселі ва ўладных структурах усіх узроўняў, у абыякавым або насцярожаным стаўленні да тых падзей. Але што яны ведаюць пра Слуцкае паўстанне, калі ні ў адным савецкім падручніку, па якіх мы ўсе вучыліся, няма нават згадкі пра яго? Афіцыйную думку, якая павінна была б даць аб'ектыўнае вызначэнне тых далёкіх падзей і іх бясстрасную ацэнку з беларускіх нацыянальных пазіцый, Васіль Быкаў абвінаваціў у тым, што яна «і цяпер застаецца ў баку, бо, як і раней, верна абслугоўвае несмяротны ваенна-прамысловы комплекс, карумпіраваную ўладу, неўміручы бальшавіцкі імперыялізм».

Адны пагодзяцца з гэтым, іншыя запярэчаць. Я ж хацеў бы звярнуць толькі ўвагу на тое, што «круглы стол» па Слуцкаму паўстанню адбыўся ўпершыню, што адзначаліся яго ўгодкі на Беларусі таксама ўпершыню. Прыгадайма, у якую канфрантацыю з афіцыйнымі ўладамі вылілася першая спроба адзначыць наша спрадвечнае свята — Дзяды. І як спакойна мы адзначаем яго цяпер, як пашыраецца яно, пачаўшыся з сталіцы, на ўсю Беларусь. А пачыналі адраджаць гэтую шляхетную традыцыю таксама інтэлігенты. Ім, гэтай невялікай праслойцы, трэба так многа цярпення і мудрасці, веры ў свой народ, каб абудзіць яго ад здранцвення. Утравелы дзірван нашай гісторыі вымагае ад аратага і сейбіта трываласці і руплівасці.

Вацлаў МАЦКЕВІЧ.

**НА ЗДЫМКАХ: Мінск, плошча Незалежнасці. Ганаровая варта моладзі ля вянка пашаны, ускладзенага да дома Э. Вайніловіча; якім яно вырасце—маладое пакаленне случчакоў!; набажэнства ў Свята-Міхайлаўскім саборы ў Слуцку ў памяць аб паўстанцах.**

Фота Віктара СТАВЕРА.

# НЕПАХІСНЫ АХОЎНІК ПРЫНЦЫПАЎ БАЛЬШАВІЦКАЙ ПАРТЫЙНАСЦІ,

## або ЗА ШТО ВУЧОНЫ АРКАДЗЬ ЖУРАЎСКІ ЗАГНЕВАЎСЯ НА ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Пачнём з першых звестак нашага шаноўнага аўтара пра паходжанне герба «Пагоня». Яно «звязваецца з дзейнасцю ўдзельнага літоўскага князя Нарымонта, які княжыў у пачатку XIV ст.». Далей прыводзіцца адпаведная цытата з летапісу, якая пацвярджае выказаную думку.

Нічога не зробіш: і цытата тут да месца, і інфармацыя летапісная вельмі каштоўная. І сапраўды «Пагоню», як сведчаць летапісы, першым прыдумаў і ўзаконіў Нарымонт. Здавалася б, усё гладка. І ўсё ж такі нейкі хохлік ці лесавік павёў аўтара так, што той спатыкнуўся на роўнай дарозе.

А. Жураўскі піша пра Нарымонта, які княжыў у XIV стагоддзі. Быў тады такі князь, сын Гедыміна. Звалі яго яшчэ Глебам. Пра яго ў БелСЭ сказана: «Князь полацкі, удзельны князь пінскі (з 1330-х г.)». Ён і сапраўды з'яўляўся **«ўдзельным»** князем, як яго называе А. Жураўскі. Але ўся загвоздка ў тым, што ў летапісах у сувязі з гаворкай пра «Пагоню» называецца не ён, а Нарымонт, які княжыў у XIII стагоддзі і быў не «ўдзельным» (гэта нешта накшталт мясцовага), а вялікім князем. Розніца ці не такая, як у нядаўнія часы паміж сакратаром ЦК і сакратаром абкома. І не так проста было б сабе ўявіць, што нейкі сакратар абкома мог бы нешта самастойна ўзаконьваць для ўсёй рэспублікі. Паміж адным і другім Нарымонтамі пабывалі вялікімі князямі Тройдзень, Віцень, Гедымін. Тут якраз і хочацца згадаць рускую прыказку: «Федот, да не тот».

Мабыць, не пашкодзіць невялікі каментарый да іншага нюанса з артыкула А. Жураўскага. Са сціплым гонарам, зусім зразумелым у такой сітуацыі, ён паведамляе: «Самае падрабязнае апісанне «Пагоні» ёсць у летапісным спісе пачатку XVII стагоддзя, які цяпер захоўваецца ў бібліятэцы імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу і яшчэ невядомы беларускім гісторыкам: «Пишуть наши кройники руские, и Наримунт был першим автором гербу або клейноту великого князства литовского: в гербу муж збройный на коню белом, меч голый якобы кого гонил, над головою державчи, и оттуль есть той клейнот названый погоня».

Факт, бясспрэчна, вельмі цікавы. Аднак тут зноў просіцца такое не зусім прыемнае ўдакладненне «але...» Дык вось, шаноўны Аркадзь Іосіфавіч: нашто ехаць у далёкі Піцер, каб знайсці ўзятую з іншых крыніц інфармацыю, калі ў Мінску можна прачытаць сам тэкст некаторых з тых «кройнік». Паспрабуем параўнаць: «Той Наримунт мел герб, або клейнот, рицерства своего таковый, и тым печатовался, Великому князству Литовскому зоставил его, а то такий: в гербе муж збройный, на коню белом, в полю червоном, мечь голый, яко бы кого гонячи держал над головою, и есть оттоля названый «погоня». Гэта цытата з «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», змешчанай у 32-м томе «Полного собрания русских летописей». Сам А. Жураўскі робіць спасылку на тую хроніку, нават цытату прыводзіць з яе, а такое месца прапусціў!

Аўтар артыкула «Гісторыя, якая ўмясцілася ў тры гады» робіць спробу пераканаць чытача, што Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь дапусціў злачынную памылку, узаконіўшы «Пагоню» ў якасці дзяржаўнага герба. Варта нагадаць сёе-тое з ягонай арыгінальнай аргументацыі: «...Абараняць яе (Рэспубліку Беларусь. — **У. К.**) заклікаы сярэдневяковы рыцар з мячом у руцэ! Наўрад ці зможа ён зрабіць што-небудзь карыснае ў век ядзернай зброі. Такое сумненне можна аднесці і ў мінулую гісторыю Беларусі. Многія прыхільнікі герба «Пагоня» яўна схільны ідэалізаваць мінулую гісторыю беларускага народа, разглядаючы яе як своеасаблівы «залаты век».

Спынім цытату, каб паказаць вытокі гэткай палітычнай мудрасці. Тут выразна адчуваецца школа гістарычнага выхавання, пройдзеная пад выпрабаваным кіраўніцтвам таго ж Кнорына. Гэта ён вучыў беларускі пралетарыят і працоўную інтэлігенцыю:

«Ідэалогія буржуазна-дэмакратычнага нацыяналізму характарызуецца тым, што для таго, каб беларусам канструявацца як нацыі, трэба, перш за ўсё, давесці гістарычнасць беларускага народу, знайсці якія-небудзь адзнакі нацыянальнага «залатога веку» ў мінулым, давесці гістарычнасць нацыянальнай пісьменнасці, знайсці гістарычных нацыянальных герояў і ўваскрасіць іх для таго, каб стварыць легенду аб нацыянальным мінулым, якая будзе падтрымліваць нацыяналізм зараз».

Шырока разгарнуўшы праблему геральдыкі ў тэарэтычным плане, спаслаўшыся, у прыватнасці, на прыклады Ірана, Шры-Ланкі, Саудаўскай Аравіі, Нігерыі, А. Жураўскі даказвае, што калі наша Беларусь «цяпер адмаўляецца ад ядзернай зброі і будзе, напэўна, весці лінію на скарачэнне ўзбраення ў будучым», то «ў такіх абставінах узаконенне ваяўнічай «Пагоні» выглядае яўным геральдычным анахранізмам».

Я, здаецца, разумею прычыны і вытокі шчымлівага клопату А. Жураўскага: ён хвалюецца з-за таго, што перад нашай краінай можа ўзнікнуць праблема не толькі ліквідацыі ядзернай зброі, але і скарачэння колькасці шабляў. Каб жа гэткая неспадзяваная загвоздка не затрымала нас на шляху прагрэсу... Але ці мала праблем можа падкінуць нам жыццё? На тое і стварыў Бог дыпламатаў, каб разбіраліся з імі. Так што Аркадзь Іосіфавіч можа лішне не хвалявацца.

А наогул якая сутнасць ягоных — і ўсіх падобных развежанняў? Адмаўленне — так нам добра вядомае — нацыянальнай гісторыі. На вялікі жаль, мы яе не ведаем, бо пры савецкай уладзе яе фальсіфікавалі ў імя найвысакароднейшых мэт будаўніцтва сацыялізму і выхавання інтэрнацыяналістычных пачуццяў. Сёння мы часта становімся сведкамі падтасоўкі нашага мінулага для выхавання нацыянальнай свядомасці. То мы «старшаму брату» маліліся, што аж лоб трашчаў, то зноў мы гатовы паліваць яго памыямі з брандспойтаў.

Мы сабе абавязаны вярнуць гісторыю такой, якой яна была — з яе бляскамі і ценямі, з усім светлым і змрочным. А нам гэта рабіць забаранялі. Адным з сімвалаў нашай дзяржаўнасці на працягу стагоддзяў была «Пагоня». І мы яе сёння вярнулі, даказаўшы гэтым самым, што мы сталі законнымі нашчадкамі і правапераемнікамі ўсёй нашай гісторыі, з якой мы і будзем браць усё карыснае, светлае, павучальнае.

Паколькі А. Жураўскі спасылаўся на прыклады розных народаў, то і я дазволю сабе зрабіць нешта падобнае.

Возьмем гімн Рэчыпаспалітай Польшчы. Там толькі першыя два радкі адпавядаюць нашым сённяшнім уяўленням аб гімне: «Яшчэ Польшча не згінула, пакуль мы жывём». А далей што? «Што нам чужое насілле забрала, шабляй адбяром». Дык няўжо і да гэтага часу Рэчпаспалітая павінна адваёўваць незалежнасць? І чым? Шабляй? У век ядзернай зброі, як глыбокадумна нагадаў бы А. Жураўскі?

Як бы там ні было, але гэты гімн выклікае ўзвышаныя пачуцці ў кожнага паляка, бо эмацыянальна звязвае яго з гісторыяй папярэдніх стагоддзяў.

Бальшавікі разбуралі старое «до основанья», «да тла». Мы ж сёння ўсё больш наглядна пераконваемся, што нават імкненне з ходу разбурыць бальшавіцкую сістэму — без прадуманага і ўзважанага плана пераўтварэнняў ва ўсіх галінах палітычнага жыцця, эканомікі, культуры, навукі — прыносіць велізарную шкоду грамадству і народу: жахлівымі тэмпамі коціцца ўніз жыццёвы ўзровень, разбураецца фундамент нацыянальнай навукі, культуры, мафіёзныя структуры пранікаюць ва ўсе сферы эканомікі, а каб неяк звязаць канцы з канцамі, дзяржава забрала ў людзей іх зберажэнні, у многіх падманам узяла грошы авансам на прадметы хатняга ўжытку яшчэ тады, калі тыя грошы былі нешта вартыя, а сёння замест іх збіраецца вярнуць пустыя паперкі... Ствараецца ўражанне, што ўсё знарок робіцца для таго, каб людзі да болю шкадавалі старога...

...Пра бела-чырвона-белы сцяг я пісаў ужо. І не хацелася б паўтарацца. Але нагадаю што ён быў узаконены на кульмінацыйнай хвалі нацыянальнага адраджэння, калі беларусы адчулі сябе народам, які зразумеў, што ён можа і павінен узяць свой лёс у свае рукі. Якая б ні была рэальная гісторыя ўзнікнення бела-чырвона-белага сцяга ў часы БНР, але ён уяўляецца сімвалам абуджэння беларусаў да свядомага палітычнага жыцця. У гэтым яго гістарычнае значэнне.

Разважанні А. Жураўскага не надта гарманіруюць з фактамі і ў іншых месцах артыкула «Гісторыя, якая ўмясцілася ў тры гады». На першы погляд ягоная аргументацыя можа нават і ўразіць чытача — так многа там спасылак на хронікі, летапісы, дакументы, што міжволі перад дасведчанасцю аўтара хочацца стаць навыцяжку. А калі прыгледзецца бліжэй? То акажацца, што шмат чаго робіцца ў яго па формуле і методыцы, вядомай у навуцы пад назвай «цяп-ляп».

Выступаць сёння супраць «Пагоні» і нацыянальнага сцяга — патрэбна грамадзянская мужнасць. Калі чалавек прытрымліваецца сваіх перакананняў, не зважаючы на грамадскую кан'юнктуру і палітычную атмасферу, — гэта пахвальна. Шкада толькі, што А. Жураўскі ніяк не хоча лічыцца з рэальнымі фактамі.

Але засведчыў А. Жураўскі нешта іншае: ён даказаў, што для таго каб зневажаць і Вярхоўны Савет, і дзяржаўныя сімвалы, розуму многа не трэба. Можна плесці абы-што, бяздумна паўтараючы тое, што ўжо сотні разоў мы чыталі і чулі.

Чаму «бяздумна»? Некаторыя прыклады я прыводзіў. Спашлюся яшчэ на адну цытату: «У святле ўсяго сказанага, — піша А. Жураўскі, — становіцца зразумелым, што прыняццем беларускай «нацыянальнай» сімволікі ў выглядзе герба «Пагоня» і бела-чырвона-белага сцяга Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь нанёс звонкую аплявуху ўжо мёртвым і яшчэ жывым былым воінам Чырвонай Арміі, партызанам і падпольшчыкам, якія змагаліся з фашысцкімі захопнікамі ў гады Вялікай Айчыннай вайны пад **традыцыйным чырвоным сцягам** (падкрэслена мною. — **У. К.**) і якія герб «Пагоня» і бела-чырвона-белы сцяг беларускіх калабарантаў успрымалі як знакі ганьбы і здрады. У той жа час гэты крок Вярхоўнага Савета нельга разглядаць як-небудзь інакш, чым высокую маральную ўзнагароду тым былым гітлераўскім прыслужнікам беларускага паходжання, якія, ратуючыся ад заслужанага пакарання, дажываюць цяпер свой век у розных краінах свету».

А трохі вышэй сам А. Жураўскі паведамляў: «...Фашысцкім флагам стала чырвонае палотнішча з чорнай свастыкай у цэнтры белага круга. У верасні 1935 года законам рэйхстага фашысцкі флаг быў аб'яўлены дзяржаўным флагам Германіі». «Пад гэтымі сімваламі (у тым ліку і пад чырвоным «палотнішчам», або «флагам». — **У. К.**) гітлераўскія орды акупіравалі амаль усе краіны Еўропы, заняволілі іх народы, учынялі рабункі, разбоі і масавыя пакаранні смерцю». А я нагадаю, што пад традыцыйным чырвоным сцягам ажыццяўлялася калектывізацыя, масавы тэрор, пагром навуковых, ваенных, гаспадарчых і нават партыйных кадраў, ажыццяўляліся рэпрэсіі, накіраваныя супраць цэлых народаў. Гітлерызм і сталінізм — з'явы раўназначныя. А ці вінаваты чырвоны колер сцягоў, што і «вождь» і «фюрэр» хаваліся пад імі? Ці вінаваты тэрмін «сацыялістычны», што з'яўляўся састаўной часткай назвы фашысцкай партыі? Ці вінаваты беларускія нацыянальныя сімвалы, што нехта апаганьваў іх суседствам са свастыкай?

Разважанні А. Жураўскага нельга лічыць бяскрыўднымі таму, што ён, моўчкі рэабілітуючы зверствы сталінізму, здзекуецца з памяці мільёнаў і мільёнаў людзей, закатаваных па волі і па віне правадыра. Апраўданне масавага палітычнага разбою ў мінулым прачышчае дарогу для новых аматараў падобных сацыяльна-палітычных эксперыментаў.

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь зрабіў апраўданы выбар. Адраджаючы старыя сімвалы, мы аўтаматычна не выратуемся ад усіх нашых бедаў. Але мы атрымліваем магчымасць паверыць у свае правы і сілы, вярнуць сабе ўсю нашу гісторыю — і тую шматвяковай даўнасці, і тую, што тварылася на нашых вачах. І абавязаны клапатліва, па-гаспадарску браць з яе ўсё каштоўнае, зберагчы тое, што яшчэ канчаткова не разбурылі. Каб забяспечыць беларускаму народу права на спакойнае і свабоднае развіццё.

**Уладзімір КАЗБЯРУК.**

**Заканчэнне. Пачатак у № 49.**

## ЛІСТ У РЭДАКЦЫЮ

## ЧАЛАВЕК ПРОСІЦЬ ДАПАМОГІ

Паважаная рэдакцыя «Голасу Радзімы»!

Я падпісчык вашай газеты. Звяртаюся да вас упершыню. Вось вырашыў папрасіць у вас дапамогі. Справа ў тым, што я зараз жыву ў Казахстане і не магу адсюль выехаць дадому ў Мінск. Дома я не быў ужо сем гадоў, але ў Казахстане жыву трэці год. Мая маці піша, што ўжо доўга хварэе і каб хутчэй ехаў дадому. Яна зараз жыве ў Мінску па адрасу: 220083, 1-шы Кальцавы праезд, дом 58, Кароль Лідзія Максімаўна. Яна пенсіянерка. Я ёй абяцаю прыехаць, але не маю магчымасці, бо за апошнія 6—7 месяцаў не магу атрымаць зарплаты, таму што няма грошай у банку. Я працую тут у саўгасе на малым прадпрыемстве, якому грошы выдаюць у апошнюю чаргу, а іх тут і так няма. І вось не ведаю, калі гэта скончыцца. Больш чакаць не маю сілы і не ведаю, што рабіць. Звяртаюся да вашай газеты, можа б вы дапамаглі як-небудзь. Можа вы ведаеце, якія арганізацыі, прадпрыемствы, банкі, хто можа дапамагчы мне матэрыяльна, каб прыехаць дадому ў Мінск. Няма той думкі, каб ад дапамогі можна было разбагацець. Дапамога, яна і будзе дапамогай. Я к таму, каб не падумалі, што гэта якая-небудзь махінацыя з майго боку. Разумею, што зараз такі час, калі ёсць шмат дзяльцоў, якія хочуць каго-небудзь абдурыць. Але я вам пішу шчыра, што хачу папасці пакуль толькі дадому. Бо тут дапамагчы няма каму. Другіх пацвярджэнняў у мяне няма. Можа вы ведаеце якія іншыя варыянты, я на ўсе згодзен. Ваша дапамога для мяне вельмі многа будзе значыць. Чытаць розныя навіны ў газеце пра Беларусь прыемна. Але куды больш прыемней, калі б вы дапамаглі земляку вярнуцца дадому на Бацькаўшчыну. І, сапраўды, напісана ў вашай газеце, што не ўсе могуць жыць удалечыні ад роднага кута, людзі хварэюць калі не фізічна, дык духоўна. Я разумею так, што дапамагчы канкрэтна хаця б аднаму чалавеку ў такой справе, гэта намнога больш, чым усе тыя размовы, што вядуцца ў гэтым напрамку. Калі на што-небудзь можна будзе спадзявацца, дык вы напішыце адразу, а калі нічога не зможаце зрабіць, таксама напішыце, каб я не чакаў.

Буду вельмі вам удзячны!

**КАРОЛЬ Леанід Паўлавіч, 37 гадоў.**

**АД РЭДАКЦЫІ. Паважаны Леанід Паўлавіч!**

**На жаль, можам дапамагчы вам толькі тым, што надрукавалі ваш ліст. Сваіх фінансавых сродкаў у нас няма. Ды каб былі, пераслаць грошы па пошце, як вы ведаеце, немагчыма. Цешымся вялікай надзеяй, што беларускія бізнесмены-мільянеры, прачытаўшы ваша пісьмо, знойдуць магчымасць паспрыяць вашаму вяртанню дамоў да хворай маці.**



## З ГІСТОРЫІ СТАСУНКАЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І ГАСПАДАРСТВА МАЛДАЎСКАГА

# ЗУБР І «ПАГОНЯ»



Длугаш прыводзіць такі эпізод, які адбыўся пры аблозе Мальборку ў 1422 годзе: пад мурамі ордэнскай сталіцы быў аточаны крыжакамі малдаўскі конны атрад. Малдаване кінуліся ў блізкі лес і там спешыліся. Хаваючыся за дрэвамі, яны стрэлі ворага залпамі з лукаў, частку забілі, частку прымусілі ўцячы, захапілі шмат палонных і трафеяў і амаль непашкоджаныя вярнуліся ў лагер.

У 1414 годзе Вітаўту ўдаецца правесці кандыдатуру Цамблака на пасаду кіеўскага мітрапаліта. Адначасова рыхтуецца унія паміж праваслаўнай і каталіцкай цэрквамі, дзеля чаго Цамблак накіраваны на Канстанцкі сабор, на які ён прывёз з сабой і епіскапаў поўдня Малдовы — Белгарада, Бырлада, Васлуя, што выклікала абгрунтаванае абурэнне Добрага, бо было замаскіраванай формай прэтэнзіі Літвы на малдаўскія землі.

Тады спроба уніі не ўдалася. Па вяртанні ў Літву Цамблак памірае, а Вітаўт, заняты іншымі клопатамі, не мае часу давесці справу да канца. Існуе, зрэшты, версія, нібы Цамблак не памёр, а ўцёк у Малдову, дзе жыў у Нямецкім манастыры да 50-х гадоў.

У 1415 годзе намеціўся чарговы этап зближэння Малдовы і Літвы, падмацаваны шлюбам Аляксандра з Вітаўтавай сястрой Рымгайлай. Тым часам з поўдня ўсё бліжэй насоўваецца на Малдову асманская навала. У 1421 годзе туркі спрабуюць з мора захапіць Белгарад, але Добры здолеў яго абараніць. У гэтым не апошнюю ролю адыграла і Вялікае княства Літоўскае: па Вітаўтавым загадзе на літоўскім беразе Днястра пад кіраўніцтвам падольскага старосты Гедыгольда таксама будаваўся замак.

У 1425 годзе сын Аляксандра Ільяш, будучы гаспадар, ажаніўся з Марынай, дачкой князя Андрэя Алгімунтавіча Гальшанскага (сястрой Ягайлавай жонкі Соф'і). Аўтар «Хронікі Быхаўца», дарэчы, нядрэнна ведаў гісторыю Малдовы, мо менавіта таму, што быў цесна звязаны з родам Гальшанскіх.

У 1426 годзе Добры захапіў порт Кілію на Дунаі, які належаў Валахіі — васалу Венгрыі. Сігізмунд патрабаваў ад Ягайлы ды Вітаўта, каб тыя прымусілі Аляксандра папусціцца. Апошні доўга адмаўляўся, але нарэшце справу было вырашана перадаць на арбітраж Вітаўта, што сведчыць аб высокім міжнародным аўтарытэце вялікага князя. Пытанне аб Кіліі разглядалася на Луцкім з'ездзе ў 1429 годзе, на якім было вырашана каранаваць Вітаўта. Але смерць апошняга і інтрыгі палякаў перашкодзілі здзяйсненню гэтай мары.

Пасля Вітаўта трон у 1430 годзе займае Свідрыгайла, які таксама збіраўся каранавацца і дзеля ўмацавання сваіх пазіцый наважваўся ажаніцца з дачкой Аляксандра Добрага. Неўзабаве з-за спрэчкі за Падолле паміж Вялікім княствам і Польшчай выбухае вайна. Мала хто ведае, што ў гэтай вайне Малдова таксама дзейнічала на нашым баку, узначальваемая з 1431 года Ільяшам, мужам Марыны Гальшанскай. Як вядома, палякам удалося распаліць у Вялікім княстве сапраўдную грамадзянскую вайну, у якой яны падтрымалі свайго пратэжэ Жыгімонта Кейстутавіча. У гэтых варунках вымушана была змяніць арыентацыю і Малдова, заключыўшы з Жыгімонтам пагадненне, паводле якога той прызнаваўся адзіным сапраўдным вялікім князем. Апошняя спроба сумесных дзеянняў Літвы і Малдовы супроць Польшчы прыпадае на перыяд 1440—1444 гадоў, калі ў нас быў свой асобны князь Казімір. Ільяш, ягоны блізкі сваяк, прапаноўваў заключыць дагавор з элементамі антыпольскага саюза. Але з 1444 года, а злашча з 1447-га, калі Казімір у дадатак зрабіўся польскім каралём, гэтыя спробы ачахлі.

Варта прыгадаць яшчэ адну сумесную вайсковую акцыю Вялікага княства і Малдовы. Узімку 1455/56 гадоў яны разам з крымскімі татарамі Заджы-Гірэя разбіваюць войскі Вялікай Арды Сейд-Ахмета, і гэта не шэраговая падзея, а важная перамога, у выніку якой падупаў самы буйны з татарскіх улусаў.

На жаль, Малдову тады напаткала іншая бяда. У 1456 годзе яна была вымушана пагадзіцца з уплатай «харача» — даніны султану. Для згоды грамадства на гэты крок гаспадар Пётр Арон склікаў у Васлуі сойм (з'ява, рэдкая для Малдовы — бачны польска-літоўскі ўплыў), вердыкт якога, дарэчы, гучыць амаль па-беларуску: «много подумали меж собою о утеснение и погибение земли нашей, щож з усих сторон маем, а наибулше от турков... а боротися нам никак. Того диле радили есмы уси посполу подняти собя неволю, как мочи имем и похилити соби голову тому поганству».

Хутка да ўлады ў Малдове прыйшоў гаспадар Штэфан III, празваны потым Вялікім. На яго ўскладаліся вялікія надзеі вызваліцца ад ганебнай асманскай няволі.

### II ПЕРЫЯД. АД СЯРЭДЗІНЫ XV СТАГОДДЗЯ ДА ЛЮБЛІНСКАЙ УНІІ

Адным з самых заможных і ўплывовых у Вялікім княстве быў род кіеўскіх князёў Алелькавічаў, заснаваны сынам Уладзіміра Альгердавіча Алелькам. Сын апошняга Сымон I (1420—1470) ад шлюбу з Анастасіяй, дачкой вялікага князя маскоўскага Васіля I і Соф'і Вітаўтаўны, быў ці не самым радавітым феадалам дзяржавы. У час Трынаццацігадовай (1454—1466) вайны Польшчы з Тэўтонскім ордэнам, калі відавочна пагоршыліся стасункі Кароны і Літвы і паміж імі ледзь не распачалася вайна за Падолле, ягоная кандыдатура тройчы вылучалася на гаспадарскі прастол. Праўда, Казімір заўжды ўмела знаходзіў кампрамісы са сваімі літоўскімі падданымі, якія ўжо стаміліся ад працяглых міжусобіц. Аднак сепаратысцкія памкненні Алелькавічаў, за якімі стаяла праваслаўнае насельніцтва Украіны, былі сталым фактарам палітычнага жыцця Літвы. У пошуках падтрымкі Слуцкія (пад такім прозвішчам яны былі больш вядомыя на Беларусі) звярталіся да праваслаўных суседзяў — Масквы і Малдовы, падтрымлівалі патаемныя кантакты з Крымам. У 1463 годзе Сымон выдаў за Штэфана сваю сястру Еўдакію. Такім чынам ён зрабіўся пасрэднікам паміж Сучавай і Масквой.

Перыяд праўлення караля і вялікага князя Казіміра можна лічыць самым спакойным у жыцці Польшчы і Вялікага княства. Паляк па выхаванню, ён імкнуўся, аднак, утаймоўваць свае сімпатыі да Кароны і нават стварыў сабе рэпутацыю абаронцы дзяржаўнага ладу і цэласнасці Літвы, асудзіўшы захады палякаў, накіраваныя на яе інкарпарацыю ў склад Польшчы. З Масквой з моманту падпісання ў 1449 годзе дагавору ваенных дзеянняў амаль не вялося. Сур'ёзных сутыкненняў з татарамі ўдавалася доўгі час пазбягаць дзякуючы намаганням дыпламатыі, якая ўмела выкарыстоўвала супярэчнасці паміж Крымскім ханствам і Вялікай Ардой. Што ж датычыць Турцыі, дык ад яе надзейным заслонам служыла менавіта Малдова, якой гэта каштавала вялікіх высілкаў. Так, пасля паходу асманаў на Кілію (хаця і няўдалага для іх) памер харача быў павялічаны да 3 тысяч дукатаў штогод. У 1473 годзе Штэфан увогуле адмовіўся ад выплаты, што выклікала карную акцыю Турцыі. 10 студзеня 1475 года адбылася славутая бітва ля р. Бырлад, калі 50-тысячнае малдаўскае войска, у якім было ўсяго некалькі тысячаў палякаў і венграў, разбіла ўдвая большыя сілы асманаў. І хаця налета тыя дамагліся перамогі і ўзнавілі збор даніны, ім не ўдалося паставіць Малдову на калені.

Але турэцкая навала ўсё ж навісала над Усходняй Еўропай. У 1475 годзе Порта захапіла генуэзскую Кафу і навязала свой сюзерэнітэт Крымскаму ханству. Гэта выклікала роспач у хрысціянскім свеце. Пра ўспрыманне гэтых падзей Гусоўскім мы ўжо пісалі, такі ж настрой адчуваецца і ў аўтара «Хронікі Быхаўца». Але ўрад Казіміра хутчэй сачыў за ходам падзей, чым імкнуўся актыўна на іх уплываць. Тое ж самае назіралася і ў дачыненні да паступовага ўзмацнення Масквы і пераходу да яе стратэгічна важных Цвяры і Ноўгарада. А ў жніўні 1481 года была выкрыта змова князёў Івана Гальшанскага (далёкага сваяка малдаўскай дынастыі Мушатынаў), Фёдара Бельскага і Міхала Алелькавіча, накіраваная на адарванне ад Вялікага княства земляў, населеных пераважна праваслаўнымі. Пасля гэтага Алелькавічы былі назаўжды адпрэчаны ад кіравання Кіевам. Ім былі пакінуты Слуцк і Капыль.

У паспяховым ажыццяўленні змовы быў зацікаўлены і Штэфан, які жадаў мець з аднавернай Масквой агульную мяжу. Паводле Львоўскага летапісу, «еще же сватался князь великий (Іван III) з Волошским воеводою Степаном, взяти дщерь его Олену за своего сына... король же (Казімір) пути не хоте дать... князь же великий посла к Мен Гирею Крымскому, повеле воевати королевскую землю. Мен Гирей же с силою своей взял Киев». Як бачым, летапісец усведамляе сувязь заключанага ў 1482 годзе дынастыннага шлюбу паміж Аленай, дачкой Штэфана ад Еўдакіі Алелькавіч, і сынам Івана III Іванам Маладым і падзеямі 1481—1482 гадоў, калі Маскоўская дзяржава пры падтрымцы сепаратысцкіх колаў у Літве і Крымскага ханства спрабавала далучыць да сябе ўкраінскія землі. Тут ужо высноўваецца будучая вось Малдова — Крым — Масква.

Каб прадухіліць кантакты праваслаўных дысідэнтаў з урадамі суседніх дзяржаў, якія пагражалі тэрытарыяльнай цэласнасці гаспадарства, вялікія князі ці ўвогуле не прапускалі гандляроў і дыпламатаў у Маскву з Малдовы і зваротна, ці накіроўвалі іх праз цэнтральныя раёны княства, дзе іх чыннасць было прасцей кантраляваць. Так, у глейце Аляксандра ад 18 чэрвеня 1498 года чытаем: «которых он (Штэфан) послов своих пошлет до великого князя Ивана Васильевича, штобы есте тых его послов... добровольне пропускали по нашому государъству, по Великому князству Литовскому, почeньше отъ границы, от Браславля, тою дорогою на Велъницу, на Корецъ, на Дубровицу, на Пинеск, на повницу московское... только сорок, а большы бы не было. И теж абы ихъ люди с чужых земель межи волохъ абы не было».

Усё больш акрэслена антыпольская і антылітоўская арыентацыя Штэфана тлумачылася ў тым ліку тым, што ён не атрымліваў істотнай падтрымкі ад Казіміра ў сваім змаганні з асманамі. Гэта асабліва выразна праявілася пасля захопу Турцыяй у 1484 годзе апошніх хрысціянскіх партоў на Чорным моры — Кіліі і Белгарада. Пасля настойлівых просьбаў Штэфана Казімір усё ж накіраваў у Малдову 20-тысячнае кароннае войска і сабраў у Кіеве літоўскае. Меркавалася, што палякі авалодаюць Кіліяй, а літоўцы—Белгарадам. Але ад актыўных дзеянняў супраць Турцыі Штэфан ухіліўся. Зрэшты, і праваслаўная Масква не згадзілася з прапановай паслоў Вялікага княства Цімафея Уладзіміравіча і Зянько ўзяць удзел у вызваленні чарнаморскіх партоў. Нягледзячы на рытарычныя заклікі, усе еўрапейскія дзяржавы разлічвалі, што асманская агрэсія аслабіць перадусім суседзяў, што і забяспечвала туркам сталыя ваенныя поспехі. Больш актыўнымі былі дзеянні Польшчы і Вялікага княства Літоўскага супраць Турцыі і Крыма ў 1486 годзе, яны пакінулі пэўны след у свядомасці сучаснікаў. Пскоўскі летапісец нават памылкова лічыў, што «валашский воевода Стефан и литовский король Андрей (?)» вызвалілі парты.

Аднак на яве Казімір схіляўся да ўступак туркам, падпісаўшы ў 1489 годзе за спіной Малдовы дагавор, у якім прызнаваў Кілію і Белгарад за султанам.

У такіх варунках Штэфан разарваў васальныя зносіны з Казімірам і прызнаў сябе васалам Венгрыі. Стаўленне ж яго да Польшчы і Літвы адгэтуль характарызавалася сталай варожасцю. У 1490 годзе ён справакаваў у Падоллі і Галічыне выступленне прыгонных сялян пад кіраўніцтвам Мухі, для падаўлення якога Казімір задзейнічаў рыцараў Тэўтонскага ордэна. Паўстанне доўжылася да 1492 года, за Муху выдавалі сябе розныя асобы, што дзейнічалі з ведама Штэфана. Толькі ў 1510 годзе быў створаны сумесны трыбунал, які меў пакараць усіх вінаватых у злачынствах. 7 чэрвеня 1492 года Казімір памёр. Каралём польскім і вялікім князем літоўскім сталі ягоныя сыны — Ян Альбрэхт і Аляксандр. У гэтым жа годзе канчаткова аформіўся накіраваны супроць Літвы і Кароны хаўрус Масквы, Крыма і Малдовы. Шматкроць туркі і татары пры актыўнай падтрымцы Штэфана «ваююць» Падолле і Галічыну. Ян Альбрэхт, які яшчэ пры жыцці бацькі разлічваў на малдаўскі прастол, плануе замяніць Штэфана кім-небудзь з Ягелонаў. На з'ездзе ў Левачы (зараз у Славакіі) у 1494 годзе, у якім удзельнічалі ўсе каранаваныя сыны Казімір-Альбрэхт, Аляксандр і кароль Венгрыі Уладзіслаў, было вырашана дамагацца ўзвядзення на малдаўскі прастол адзінага з братоў, які яшчэ не меў «пасады» — Жыгімонта, будучага караля і вялікага князя. Гэтае рашэнне, зрэшты, захоўвалі ў таямніцы, а афіцыйна дамовіліся, што браты Ягелоны акажуць Штэфану садзейнічанне ў вяртанні Кіліі ды Белгарада.

Тым часам на ўсходзе падзеі развіваліся вельмі неспрыяльна для Вялікага княства. Аляксандр у 1494 годзе быў вымушаны пагадзіцца са стратай велізарных тэрыторый, што адышлі да Масквы. У выніку было падпісана мірнае пагадненне, замацаванае шлюбам Аляксандра з дачкой Івана III Алёнай. Некалькі год стасункі паміж дзвюма дзяржавамі былі параўнаўча мірнымі. Масква нават выступіла пасрэднікам ва ўрэгуляванні канфлікту з Малдовай[1]: паслы ў Сучаве ў 1494—1496 гадах — Т. Замыцкі, М. Кутузаў, І. Ашчэрын — пераконвалі Штэфана, каб той знаходзіўся з Літвой «в миру и единстве». Нарэшце, пасля доўгіх перамоваў паміж Сучавай і Вільняй у 1496 годзе быў падпісаны дагавор. Аляксандр пайшоў насуперак волі брата, але пасля гэтага таму не заставалася нічога іншага, як падпісаць з Малдовай аналагічны дагавор. Паводле дагавораў, выступленне Малдовы супраць Турцыі ў саюзе з Літвой і Польшчай было магчымым толькі пры наяўнасці адпаведнай ваенна-палітычнай сітуацыі, што ўлічвала рэальнае становішча маленькай краіны, якой бы вельмі дорага каштавалі неабачлівыя крокі. Прадугледжвалася садзейнічанне Польшчы і Літвы ў вяртанні чарнаморскіх партоў, якое Ян Альбрэхт разлічваў выкарыстаць для рэалізацыі планаў, высунутых у 1494 годзе ў Левачы.

Разумеючы мэты Альбрэхта, які схіліў на свой бок і Аляксандра, Штэфан апеліраваў да Івана III, які, у сваю чаргу, заклікаў Аляксандра да выканання мірных дагавораў 1494 і 1496 гадоў, пагражаючы ў зваротным выпадку падтрымаць Малдову ўзброенай сілай. Апошняе пасольства з Масквы з папярэджаннямі наведала Вільню ў жніўні 1497 года, ужо пасля выступлення Яна Альбрэхта ў бок Малдовы. Аляксандр запэўніў цесця, што «на Стефана воеводу не пошол», але амаль адразу ж літоўскае войска рушыла на поўдзень, дзе мела сустрэцца з польскім і рухацца далей нібыта для вяртання Кіліі і Белгарада. Трэба адзначыць, што, нягледзячы на мірны дагавор, Штэфан па-ранейшаму разам з татарамі непакоіў літоўскія рубяжы. Даведаўшыся аб руху палякаў, ён накіраваў да караля сваіх паслоў, каб нагадаць, што такія выправы могуць паводле дагавору праводзіцца толькі з ягонай згоды. Але Ян Альбрэхт, арыштаваўшы паслоў, войска не спыніў. 26 чэрвеня палякі перайшлі мяжу, а 24 верасня аступілі Сучаву.

**Алесь БЕЛЫ.**

Працяг. Пачатак у № 49.

---

[1] Напрыклад, у траўні 1495 года літоўскі пасол у Маскве Страмілаў паведамляў: «Стефан, воевода волошский, лони без каждое отповеди, нам шкоду немалую вчинил: приславши люди свои тайно, город наш Браславль зжог, и люди многие головами в полон повёл...»

*ЗАХАПЛЕННЕ*



Далёка не кожны з нас, на жаль, можа сказаць, што заняты любімай работай. А вось у Дзіяны Рак з Белаазёрска Бярозаўскага раёна няма сумненняў, што знайшла сваё прызванне. З дзяцінства захаплялася маляваннем, скончыла мастацкую школу. Потым зацікавілася дэкаратыўна-прыкладным мастацтвам, асвоіла тэхніку аплікацыі саломкай і дасканала авалодала ёю. Пасля заканчэння гісторыка-філалагічнага факультэта універсітэта стала працаваць з дзецьмі.

За 12 гадоў творчага пошуку з'явілася шмат цікавых знаходак, таму работы вучняў Дзіяны Віктараўны часта унікальныя. І хаця, як падкрэслівае педагог, стыль іх не з'яўляецца традыцыйна народным, фальклорны пачатак прысутнічае ў кожным сюжэце. Тут і Купалле, і Каляды, і серыі работ «Поры году».

Выключнае цярпенне выхоўвае Дзіяна Віктараўна ў сваіх вучняў. Тэхніка аплікацыі вельмі працаёмкая — усяго пяць-шэсць буйных работ паспяваюць выканаць дзеці за год. Ды яшчэ сувенірныя. Вырабы гурткоўцаў упрыгожваюць школьныя класы і кабінеты, памяшканні мясцовай бальніцы.

НА ЗДЫМКУ: Дзіяна РАК паказвае работы сваіх вучняў.

Фота Я. КАЗЮЛІ.

*ЗЕМЛЯКІ ЎСПАМІНАЮЦЬ ДОБРЫМ СЛОВАМ*

# ПАСЛЯ ЯГО ШУМІЦЬ БОР

На шчасце жыхароў вёскі Міхалкавічы, што на Лагойшчыне, у гады вайны ўцалелі сядзібы, збудаваныя шмат дзесяцігоддзяў назад дбайнымі гаспадарамі. І стаяць яны сёння як жывы напамін аб часінах мінулых, пра якія мы ведаем з кніг ды расказаў старажылаў.

Старая прысадзістая хаціна звяртае ўвагу сярод іншых падобных да сябе. Бо на сцяне, паміж невялікімі вокнамі, прымацавана мемарыяльная дошка з надпісам: «У гэтай хаце жылі браты-асветнікі Казімір і Язэп Гладкія».

На ўрачыстасці, прысвечанай ушанаванню заслужаных землякоў і адкрыццю дошкі, звяртаючыся да міхалкаўцаў і гасцей, дырэктар Коранскага сельскага Дома культуры Уладзімір Палупанаў (цяпер ён працуе на іншай пасадзе) сказаў:

— Прыйшоў час аддаць належнае людзям, якія ўзгадаваліся пад дахам вось гэтай хаціны, сказаць пра іх добрае слова.

Менавіта стараннямі братоў Гладкіх была адкрыта ў 1921 годзе беларуская пачатковая школа ў вёсцы Корань. Яе ўзначальвае Казімір Гладкі. Брат Язэп і яго будучая жонка Настасся Трубач працуюць тут настаўнікамі-практыкантамі. А ў 1924 годзе, дзякуючы намаганням братоў, адкрываецца школа і ў Міхалкавічах. Справу навучання тут бярэ ў свае рукі Язэп Гладкі. Казімір жа нейкі час працуе ў Корані, потым яго пераводзяць у Швабы, што недалёка ад Зембіна. Таленавіты педагог, здольны арганізатар школьнай справы, ён нярэдка атрымлівае падзякі ад раённага і абласнога кіраўніцтва народнай асветы.

Трагічна склаўся далейшы лёс Казіміра Гладкага. Па даносу зласліўца яго арыштоўваюць і кідаюць у мінскую турму. Прах яго хутчэй за ўсё прыняла зямля Курапатаў.

Язэпу Гладкаму наканаваны быў няпросты жыццёвы шлях. Каб не падзяліць лёс брата, ён пераязджае ў Мінск, паступае на вячэрнія курсы пры педагагічным інстытуце, пасля якіх уладкоўваецца ў Інстытут школьнай

# БІЗНЕСМЕНЫ БАВЯЦЬ ЧАС

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

зы ў месяц карыстацца самай вялікай у свеце раскошай чалавечых зносін абыдзецца яго ўладальніку ў 32 тысячы рублёў.

На працягу ўсяго вечара на мае пытанні адказваў супрацоўнік Клас-клуба, дырэктар Альтэрнатыўнага тэатра Леанід Дзінерштэйн.

— Што такое Клас-клуб?

— Па-першае, гэта месца, дзе ахвотна працуюць 70 чалавек, якія адчуваюць сябе шчаслівымі таму, што проста прыходзяць сюды на работу. Па-другое, гэта месца, куды з вялікім задавальненнем прыходзяць наведвальнікі клуба, якія добра ведаюць, што іх заўсёды чакаюць сябры і цікавая праграма. Тут можна паглядзець спектакль Альтэрнатыўнага тэатра, галерэя VITA NOVA прапануе новую выставу, будзе іграць джазавы ці камерны аркестр, перад нашымі гасцямі выступалі вядомы пісьменнік Рыгор Горын, знакамітыя акцёры Васілій Ланавой, Міхаіл Ульянаў. А калі праграма скончыцца, ніхто не пагасіць святло і не папросіць пакінуць памяшканне — працуе бар, і за кавай альбо чым яшчэ можна вырашыць праблемы, на якія не хапіла часу днём.

— З чаго ўсё гэта пачалося?

— Была каманда аднадумцаў з ідэямі, якія чатыры гады таму падаваліся ўсім проста вар'яцкімі, і тое, што вы зараз бачыце і што мы тады прапанавалі, было зусім нерэальна. І дзякуй Богу, ніхто нам тады не верыў і слухаць не хацеў.

— Чаму?

— А нам бы ніхто не даў гэтага зрабіць. Мы ўжо тады зразумелі, што стварыць такі вось культурны цэнтр, які змог бы аб'яднаць і Альтэрнатыўны тэатр (з якога ўсё, дарэчы, і пачалося), і мастацкую галерэю, і нашу навуковую групу, якую мы назвалі сістэмай інтэлектуальнай падтрымкі «Рэйтынг», і многае іншае без людзей, у якіх ёсць грошы, немагчыма. Мы «выйшлі» на такіх людзей, прапанавалі ім супрацоўніцтва, знайшлі агульную мову, а вынік вы зараз бачыце самі.

Між тым, у клубе імкліва разгортваліся падзеі.

Прэзентацыя — слова, якое перастае быць новым, але працягвае быць модным і прывабным. Падавалася, што самым разгубленым чалавекам на прэзентацыі выставы быў яе аўтар, мастак Уладзімір Доўгань. Не спешчаны ўвагай да сваёй творчасці, ён збянтэжана ўсміхаўся, апынуўшыся ў цэнтры падзей.

— Цяжка было арганізаваць гэтую выставу? — запыталася я ў мастака.

— Галерэя ўзяла на сябе ўсе клопаты па арганізацыі яе. Адзінае пытанне, на якое мне давялося адказваць, гэта — што яшчэ патрэбна?..

Пакуль народ атрымліваў задавальненне ад карцін, віна і шашлыкоў, я зноў звярнулася да Леаніда Дзінерштэйна:

— Вас не бянтэжыць сама ідэя клуба для багатых у нашым збяднелым грамадстве?

— Так, жыць зараз цяжка, але згадзіцеся, гэта не значыць, што ўсім разам трэба класціся і паміраць. Можаце паверыць, што я шчыра жадаю, каб такіх месцаў нефармальных зносін было як мага больш, каб кожны мог прыйсці ў свой ці які яшчэ клуб, але ж калі сёння немагчыма зрабіць гэта для ўсіх, прапануеце не рабіць ні для кога? Што датычыцца маіх адносін да нашых гасцей — што ж, любое грамадства складаецца з саслоўяў. Гэта саслоўе, што нараджаецца сёння, усё роўна адбудзецца. Нам цікава адбыцца разам з ім. Чаму б і не?

Згадзіцеся, што галоўная станоўчая якасць рытарычных пытанняў у тым, што яны не патрабуюць адказаў.

І зноў пытанне да Леаніда Дзінерштэйна:

— Раскажыце больш падрабязна, як працуецца людзям, якія не ведаюць фінансавых праблем.

— Пакуль што гэта пытанне не для нас. Першую нармальную зарплату мы атрымалі толькі ў верасні. Да гэтага мы ўсе жылі ніжэй узроўню беднасці і працавалі на энтузіязме. Вытрымалі ўсе цяжкасці напэўна толькі таму, што разам з намі працавала група вучоных, той самы «Рэйтынг», пра які я ўжо гаварыў. Вы не паверыце, але дзякуючы іх распрацоўкам, яшчэ ў 1988 годзе мы ўжо дакладна маглі сказаць, што будзем рабіць у 1992...

— Ну, калі такое магчыма, распаўсюдзілі б вы свае распрацоўкі на ўсю краіну. Сёння нельга ўявіць, што нават праз гадзіну адбудзецца, не гаворачы пра чатыры гады...

— Не смейцеся. Я не ведаю, сціпла гаварыць пра гэта ці не, але ў нас існуе дасканала распрацаваны метад, які з'яўляецца ноў-хаў у кіраванні. Нашу брыгаду запрашаў да сябе Массавет, урад Расіі звяртаўся з заказамі. Усе, хто тут працуе, пастаянна праходзяць навучанне ў гэтай групе...

А потым усіх запрасілі ў глядзельную залу на прэм'еру Альтэрнатыўнага тэатра.

Прызнаюся, пра п'есу Мікалая Гумілёва «Гондла» да гэтага часу я не чула нічога. І адразу нават не змагла зразумець, навошта было ўвогуле заводзіць размову пра далёкія ад нас і па часе, і па зместу падзеі. А потым усё хутка стала на свае месцы. Тэма п'есы — канфлікт паміж людзьмі-ваўкамі і людзьмі-лебедзямі, у якім у рэшце рэшт людзі-лебедзі ўсё ж такі перамагаюць, але ж цаной гібелі лепшага з іх... Перасцярога, пакінутая некалі чалавекам-лебедзем, загубленым людзьмі-ваўкамі, накіравана на тое, каб нам, сённяшнім, нагадаць, што там, дзе льецца кроў, пераможцаў не бывае...

«Гондла» — далёка не адзіная п'еса ў рэпертуары Альтэрнатыўнага тэатра. На жаль, не давялося ўбачыць спектакль «Камедыя» па п'есе Уладзіміра Рудава паводле твораў беларускіх аўтараў Аляхновіча і Марушэўскага. Сам гэты тэатр адчувае сябе дастаткова незалежна і ад Міністэрства культуры, і ад іншых уладных структур. Галоўны рэжысёр тэатра Вітас Грыгалюнас растлумачыў гэта вельмі проста: «Тэатр — частка грамадства, і таму мы не можам існаваць асобна ад яго праблем і працэсаў, якія тут адбываюцца». (А можа, і сапраўды без залішняга ціску і прымусу тыя самыя праблемы роднай мовы, з-за якіх сёння толькі што не да крыві б'юцца праціўнікі і прыхільнікі, куды лепш і хутчэй пойдуць? Не бяруся сцвярджаць, але ж прэцэдэнты ёсць).

У планах тэатра — і Клас-клуба — вялікі праект, прысвечаны 400-годдзю з дня смерці Сымона Буднага, якое будзе адзначацца ў наступным годзе. Да гэтай падзеі будзе напісана і пастаўлена п'еса, а галерэя рыхтуе выставу на тэму «Будны і яго час».

І яшчэ пра адну акцыю Клас-клуба не магу не расказаць, хаця адбылася яна і не ў гэты вечар. Галерэя VITA NOVA дапамагла мінскай школе для глухіх дзяцей арганізаваць сваю карцінную галерэю з іх малюнкаў і паказала гэтыя, без перабольшання, надзвычай цікавыя работы на адным з пасяджэнняў клуба.

Калі ў рэшце рэшт скончылася асноўная праграма, народ стаў паступова збірацца за столікамі ў групы згодна з камерцыйнымі і асабістымі інтарэсамі. Для аматараў чужых вострых адчуванняў хачу сказаць адразу: стрыптызу, танцаў на раялі і купання ў шампанскім не было. А было проста вельмі позна, і самы час збірацца дамоў.

Вось так бавяць свой вольны час мінскія бізнесмены. Нехта пазайздросціць, нехта скажа: сумна, а нехта абурыцца: зусім нахабнымі сталі, глядзі ты, ужо клубы свае ствараюць. Над гэтым мне хацелася б паразважаць. Чаму нікога не засмучае, што не клубы, а нават палацы маюць тэкстыльшчыкі, трактаразаводцы ці чыгуначнікі (адкуль, дарэчы, і выйшаў Альтэрнатыўны тэатр)? Ну стварылі бізнесмены свой Палац культуры, ні ў кога нічога, між іншым, не адабралі. Некаторыя вельмі цікавыя і вядомыя творчыя калектывы знайшлі тут сабе спонсараў, якія дапамагаюць ім жыць і нас з вамі радаваць мастацтвам. І працуюць там, паверце, нефармальна, і мара ўсіх культасветпрацаўнікоў — дайсці да кожнага — тут у рэшце рэшт здзейснілася. А што тычыцца таго, што карыстаюцца ўсімі гэтымі дабротамі не рабочыя, а бізнесмены, дык чаму гэта раптам яны так нас раздражняць сталі? Нічога новага не адбылося: багатыя ў нас былі і раней, толькі ніхто «чайкам», што вазілі былых партыйных босаў, шкла не біў і дзяржаўныя дачы не падпальваў. (Хаця, думаю, што за куды больш зграбнымі платамі тых жа дач часам адбывалася такое, што выклікала б абурэнне самых прававерных камуністаў).

Ну што ж, з'ява новая, хаця ва ўсім свеце лічыцца членам якога-небудзь клуба — справа самая што ні на ёсць звычайная. І ў тым, што першы такі клуб у нас створаны для людзей заможных, таксама няма нічога дзіўнага, бо культура патрабуе вялікіх грошай, якіх, на жаль, сёння небагата і ў дзяржавы, і ў розных слаёў грамадства. Але ж тое, што яны не толькі самі задаволены тым, як працуе іх клуб, але і пра нацыянальную культуру, мову і інтарэсы тых, у каго няма грошай, каб стаць яго членам, клапоцяцца,— справа, я думаю, станоўчая. Так што, напэўна, трэба не шляхі шукаць, як прызваць да парадку мінскіх «багатых», а лепш падумаць, як зрабіць, каб і тыя, у каго грошай значна менш, таксама мелі сваё месца адпачынку.

Вераніка ЧАРКАСАВА.

педагогікі. У званні малодшага навуковага супрацоўніка ён працаваў загадчыкам так званага масавага сектара. З пачаткам вайны вярнуўся ў родную вёску, дзе некаторы час вучыў дзяцей.

Апынуўшыся ў пасляваенны час у Заходняй Германіі, Язэп Гладкі займаецца педагагічнай дзейнасцю і выданнем школьных падручнікаў. У канцы 40-х гадоў ён падрыхтаваў і выдаў «Лемантар», чытанкі для розных класаў на беларускай мове: «Малюнкі мінулага», «Помнікі старажытнасці», «Родны палетак», «Наша краіна», зборнік беларускіх песень.

Актыўную асветніцкую дзейнасць Язэп Гладкі працягваў пасля пераезду ў ЗША. Ён пісаў артыкулы, успаміны, рабіў апісанні народнага быту, звычаяў, абрадаў Лагойшчыны. Да таго ж аднавіў у Амерыцы выдавецтва «Заранка». За восем апошніх гадоў жыцця (памёр Я. Гладкі ў 1972 годзе) ён надрукаваў звыш дзесяці кніжак. Сярод іх «Лемантар для школаў і хатняга ўжытку» — з серыі школьных кніг. Усе ж іншыя — гэта фальклорныя, этнаграфічныя або лінгвістычныя запісы. Несумненную навуковую каштоўнасць мае «Краёвы слоўнік Лагойшчыны», у якім значацца з тлумачальнымі прыкладамі звыш 8 тысяч слоў з таго часу, калі беларуская мова захоўвала сваю арыгінальнасць, спрадвечную чысціню. Не менш каштоўная кніжка «Прыказкі Лагойшчыны». Па колькасці пададзеных прыказак арыгінальнага запісу (каля 2 тысяч) яе можна паставіць у адзін рад са зборнікамі Федароўскага, Насовіча, Лядскага, Дабравольскага.

Добрую памяць пра свайго настаўніка Язэпа Гладкага захоўваюць і сёння старэйшыя жыхары вёскі Міхалкавічы. Пакінуў ён пасля сябе і жывы помнік — ладны сасновы масіў, які тутэйшыя людзі называюць «Язэпаў бор». На пачатку сваёй педагагічнай дзейнасці міхалкавіцкі настаўнік выходзіў з вучнямі за ваколіцу вёскі і на пясчанай няўдобіцы высаджваў маленькія сасонкі. Пасаджаны яго стараннем лес, як і іншыя родныя краявіды, не раз, напэўна, прыгадваў Язэп Адамавіч далёка ад бацькоўскага дому. Сведчаннем таму яго ліст, адрасаваны ў Міхалкавічы сваякам:

«Калісь я прыкладаў вялікія намаганні, каб Міхалкаўскі бор зашумеў лесам. Я кожнай вясной з вучнямі часта хадзіў у лес збіраць шышкі, здабывалі з іх насенне, а потым садзілі лес. Мне прыходзілася толькі марыць, што за шмат гадоў пасля маёй смерці тут будзе шумець лес, а ў ім будуць чуцца дзіцячыя галасы, дзеці тут будуць збіраць ягады і грыбы. Але незалежна ад маіх стачисленняў тыя мае мары ажыццявіліся нават пры маім жыцці. Гэта ўсё я даведаўся з вашых лістоў. Цікавейшай навіны для мяне і быць не можа. Цяпер мне і ўміраць будзе лёгка...»

**Віктар НЕСЦЯРОВІЧ.**

## *СПАДЧЫНА*



**Імя славутага беларускага графіка, жывапісца, скульптара Язэпа Драздовіча ў апошнія гады стала зноў вядомым на Беларусі. У кастрычніку ў пасёлку Германавічы Шаркоўшчынскага раёна адбыўся вечар яго памяці. Дзіваком з барадой і доўгімі валасамі, які хадзіў па наваколлях з мальбертам, распісваў у дамах дываны і вельмі любіў слухаць народныя песні, паўстае мастак ва ўспамінах старажылаў. Час даў высокую ацэнку дзейнасці і творчасці Драздовіча, які ўнёс прыкметны ўклад у скарбніцу беларускай культуры. Свята ж у Германавічах паказала, што яго помняць і шануюць у родных краях.**

**НА ЗДЫМКУ: служба ў касцёле ў Германавічах, прымеркаваная да Дня памяці Язэпа ДРАЗДОВІЧА.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

# ТЭРЫТОРЫЯ ЦІ НАЦЫЯ?

**(Працяг. Пачатак на 1-й стар.).**

номерностью»[1]. Нам яшчэ давядзецца крануць уласцівага сэнсу гэтае філасафічнае, дакладней, «научно-коммунистической» высновы. Зараз звяртаем толькі ўвагу на адну, дужа прыкметную, не менш эксплуатаваную рысу «дабраахвотнасці», якой з акадэмічных і палітычных вышыняў звыклася пазначаць моўнае, нацыянальна-культурнае нядбальства на Беларусі. Адносна якога, дарэчы, метафарычная самаіронія Купалы гучыць не менш пераканальна:

**Аграбленыя з гонару й кашулі,**
**З свайго прыпыну выгнаныя вон,**
**Мы дзякуем, што торбы апранулі**
**На нас ды з нашых нітак-валакон.**

*«Перад будучыняй». 1922.*

Але абок мастацка-вобразнага асэнсавання нашае нацыянальнае нямогласці (аналіз літаратурных твораў з гэтага гледзішча — асобнае, вартае спецыяльнае ўвагі пытанне) айчынная думка назапасіла адпаведны навуковы досвед, вяртаемы сёння, пасля працяглага замоўчвання й фальсіфікацый, у грамадскі кругабег. Перадусім маем на ўвазе фундаментальную працу дзеяча-адраджэнца і гісторыка Аляксандра Цвікевіча «Западно - руссизм» (Менск, 1929), аплачаную трагічнай цаной, разам з многімі іншымі доказамі Беларускае Праўды[2]. «Западно-руссизм», паводле аўтара, ёсць пэўная ідэйна-тэарэтычная школа, прадстаўнікі якой «паставілі сваёй мэтай давесці, што Беларусь не з'яўляецца апрычонным краем, з сваёй гістарычна-нацыянальнай прыродаю, але яна ёсць заходнерускай часткай Расіі». Даследчык і раскрыў гэтую ідэалагічную з'яву як своеасаблівую супярэчнасць, «адмоўны бок» агульнае гісторыі Беларусі, беларускага руху.

Аналізуючы эвалюцыю «западно-русской» думкі, асабліва яе галоўнага тэарэтыка М. Каяловіча, Цвікевіч фактычна на тым і спыніўся, паколькі, як зазначаў, пасля Каяловіча гэтай школе ўжо «не заставалася сказаць большага». Вывад слушны пры адной агаворцы: калі лакалізоўваць згаданую з'яву канкрэтна-гістарычнымі, дакладней, дакастрычніцкімі часовымі рамкамі. У гэтым, канцэптуальным сэнсе «западно-руссизм» Каяловічавага ўзору сапраўды ўяўляў сабою дастаткова завершанае абгрунтаванне непадзельнасці гісторыка-культурнага, увогуле нацыянальнага лёсу Беларусі, званай тады афіцыйна «западно-русским краем», ад лёсаў Расіі. Не выпадкова ў сваіх «Чтениях по истории Западной России» ён скрозь націскаў на неабходнасці «знать Западную Россию по-русски, понимать по-русски» і г. д. і да т. п.

Зыходзячы з падобнае ж адзінарускае званіцы, нічым прынцыпова новым не ўзбагацілі пытанне нават такія арыгінальныя публіцысты, ці не апошнія з магікан дарэвалюцыйнага, «класічнага» западноруссизма», як Лукаш Саланевіч ды Іван Саланевіч. Першы з іх на пачатку сваёй кар'еры пры заснаванні «Белорусского общества» (1909) ледзь было не дагаварыўся да неабходнасці «самоопределения самими белорусами» свайго ўласнага шляху, не тоеснага, маўляў, ні маскоўска-расійскаму, ні польскаму. Фактычнае ж разуменне гэтага шляху другі пружанскі гадунец (паходзілі Саланевічы з Пружаншчыны) выказаў даволі разгорнута й паслядоўна ў якасці рэдактара газеты «Северо-западная жизнь», зацятага крытыка «Нашае Нівы», беларускага адраджэнчага руху як такога, пазней жа, на схіле веку, ужо ў эміграцыі ў ролі актыўнага прапагандатара рускае манарха-імперскае ідэалогіі,

Так, у адным з нумароў (1912, 20 снежня) у звароце да мясцовае інтэлігенцыі падкрэслівалася патрэба «не выделять себя из состава российской интеллигенции», паколькі «кроме места рождения ничего больше белорусского интеллигента православного исповедания (за межамі праваслаўя ва ўяўленні ідэолагаў «западно - руссизма» беларусаў не існавала. — **А. К.**) не отличает от интеллигента великорусского и малороссийского: одно отечество, один язык, одна культура, одно прошлое, одно будущее». Адпаведна і нацыянальна-культурную беларускую працу адэпты «западно-руссизма» кваліфікавалі не інакш, як правакацыяй мясцовых палякаў, мянуючы «белоляхами» беларускіх дзеячаў-адраджэнцаў з «нашаніўскага» асяроддзя.

Словам, у абгрунтаванні гістарычнае бездапаможнасці беларусаў, непазбежнасці іхняга духоўна-палітычнага ўтрыманства на «вялікарускім» карку «западно-руссизм» дакастрычніцкага гатунку самавызначыўся даволі ясна, з тэарэтычнага боку амаль што вычарпальна.

Але як ідэйная канцэпцыя і яшчэ больш — палітычная практыка, звязаная з адмаўленнем нацыянальна-гістарычнае самастойнасці і саматворчасці беларускага этнаса, «западно-руссизм» і далей, праз усё XX стагоддзе, працягваў і працягвае сваё існаванне, хаця пад іншымі назвамі, ідэалагічнымі афарбоўкамі. І ў гэтым пастаянна дзейсным сэнсе ён дасюль застаецца змрочным фактам і недарэчным фактарам беларускага жыцця, своеасаблівым комплексам нацыянальнае непаўнацэннасці ў псіхіцы беларуса перад «старэйшым» братам-велікарусам, перад рускаю моваю, рускаю культураю.

І ўсё ж пры нутраным пераемстве нельга не ўлічваць відочнае розніцы паміж «западно-руссизмом» XIX — пачатку XX стагоддзяў і яго сучаснымі носьбітамі-вызнаўцамі, паміж «бацькамі» і нашчадкамі, паміж тымі ж Каяловічам ці Саланевічамі і, беручы мастацка-абагулены тып з Купалавых «Тутэйшых», Мікітам Зносакам або Мікіціем Зносіловым. Той, першы, зрадзіўся і выступаў у рэчышчы ўласнарускай каланіяльна-асімілятарскае палітыкі на Беларусі. Гэты, другі, прарос, увабраўся ў поўсць і паразытуе на глебе ўласна беларускай, пад аслонай фармальных атрыбутаў беларускае дзяржаўнасці, а цяпер, пасля абвяшчэння незалежнае суверэннае Рэспублікі Беларусь, нават беларускага суверэнітэту. Наколькі першы сфарміраваўся на выкрыцці «знешняе» небяспекі для беларусаў — паланізма і ўсім сваім пафасам быў скіраваны супраць паланізацыі Беларусі, нагэтулькі другі выказаў свой імпэт толькі і выключна на змаганні з беларускім адраджэнчым рухам, у падаўленні й нявечанні беларускага нацыянальнага жыцця.

З гэтага другога пункту гледжання ўсю 70-гадовую гісторыю былое БССР, за невялікім выключэннем першае дэкады, 20-х гадоў, можна разглядаць як гісторыю татальнага панавання й практычнага здзяйснення ідэйных установак «западно-руссизма», праўда, у іншых, савецка - інтэрнацыяналістычных шатах. Канчатковая ж мэта абодвух «руссизмов» адна і тая ж: зліццё (палітычнае, эканамічнае, моўнае, культурнае) беларусаў з рускімі; у адным выпадку праз выбаўленне ад «польска-каталіцкае» сапсаванасці, у другім — праз паўсюдную й няспынную інтэрнацыяналізацыю, фактычна — русіфікацыю.

Асімілятарская сутнасць «западно-руссизма» з надзвычайнай нагляднасцю праявілася й праяўляецца ў адносінах да беларускае мовы — асноўнага, у апошнія стагоддзі фактычна адзінага выказніка і гаранта беларускасці ў беларусах. Не выпадкова, што на знявечанне гэтае цэнтральнае артэрыі беларушчыны, духоўнага хрыбта нацыі кіраваліся й дасюль кіруюцца галоўныя высілкі асімілятараў. Праілюструем нашу думку трыма спасылкамі — храналагічна й сацыяльна адлеглымі між сабой, тым не менш, вельмі сугучнымі ў сваёй «западно-русской» існасці.

Першая. З данясення віленскага губернатара князя М. Далгарукава на імя імператара Мікалая І (1833 год): «Во все времена во всех странах мира **язык** всегда был и будет непосредственным **орудием** правительства **для достижения** всевозможных **видов и намерений.** Ведь господствующий язык, как господствующее вероисповедание, должны иметь преимущественное уважение перед местными наречиями отдельных пограничных или новообретенных стран. Общее употребление господствующего языка **нечувствительно обмирает** разнородные племена онаго, истребляет народные предубеждения, затемняет самые предания давней вражды, **изглаживает воспоминание о происхождении** и наконец, **сливает** все чуждые племена **в один народ».**

Другая. З тэлеграмы прадстаўніка ЦК РКП (б) на Беларусі й Літве Машыцкага на імя Леніна, Чычэрына, Сталіна (2 лютага 1919): «БНР была ўтворана з мэтаю «показать, что наши интересы противоречат, для того, чтобы создать промежуточное государство, буфер. С целью защитить соседей от большевистской заразы нужно было разжечь пагубные националистические чувства и заглушить классовые противоречия. Орудием для сего служил, между прочим, **пресловутый белорусский язык,** вероятно, изобретенный бежавшими в Польшу Мамонько, Грибом, Скирмунтом. Так делала Рада Белоруссии. Но когда на тот же путь вступило правительство (на чале з Зм. Жылуновічам), декретировавшее выделение Белорусской республики, на сцене снова появился **комедийный белорусский язык.** Целесообразность этого акта мы никак понять не можем ни экономически, ни политически, ни этнографически.

**Аляксей КАЎКА.**

**(Заканчэнне будзе).**

[1]Не спасылаюся на прозвішча аўтара цытаванае працы, друкаванае ў 1971 годзе, — магчыма сёння ён устрымаўся б ад такое высновы — падобных меркаванняў адносна этнічнае індывідуальнасці беларусаў безліч. Прыклад скарыстаны намі як характэрная, дасюль пашыраная спроба «навуковага» абгрунтавання моўнае, наогул нацыянальнае непаўнацэннасці беларускае супольнасці, нібыта характарам свае прыроды, гісторыі асуджанага на сталае ўтрыманства, непазбежнае растварэнне ў велікарускім этнасе або так званым «общерусском» («единорусском») народзе.

[2]У 1930 годзе А. Цвікевіч быў арыштаваны органамі ГПУ і паводле сфабрыкаванага абвінавачання ў прыналежнасці да Саюза Вызвалення Беларусі асуджаны на высланне за межы рэспублікі, у 1937 годзе расстраляны. Тыраж згаданае кнігі адразу ж. з друкарскага варштата, быў канфіскаваны і амаль цалкам знішчаны. Уцалелі выпадкова адзінкавыя асобнікі ў прыватных зборах.



У Мікалая Максіменкі з вёскі Антонаў Нараўлянскага раёна рэдкая па цяперашнім часе прафесія — бондар. І валодае ён ёю па-майстэрску. Якіх толькі бочак няма ў Мікалая Пятровіча: для мёду, для сала, для сыру, ад дэкаратыўнай паўлітровай да столітровай... А паколькі ўсе вырабы Максіменкі зроблены не толькі добра, але і прыгожа, убачыць іх можна як у гаспадарцы многіх яго землякоў, так і ў раённым музеі.
НА ЗДЫМКУ: Мікалай МАКСІМЕНКА са сваімі вырабамі.

Фота С. ХАЛАДЗІЛІНА.

## АБ'ЯВЫ

**Працяглы час займаюся пошукамі людзей, якія прапалі без вестак у час другой сусветнай вайны на беларускай зямлі. Ведаючы, як складана даведацца пра іх тым, хто жыве па-за межамі Беларусі, прапаную сваю дапамогу. Працуючы ў архівах, пераканаўся, што шмат чаго ў гэтым напрамку можна зрабіць.**

**Калі нашых замежных суайчыннікаў цікавіць лёс родных, сяброў, знаёмых, сувязь з якімі парушылася ў вайну ці ў іншы час, можна звяртацца па адрасу:**

**Беларусь, 222322, Мінская вобл., Маладзечанскі р-н, г. п. Радашковічы, вул. Мінская, д. 8, кв. 4. Брышцену Вячаславу Антонавічу або на адрас рэдакцыі.**

**У пісьмах прапануецца паведамляць пра расшукваемых як мага больш звестак, па магчымасці прыкладаць фотаздымкі.**

**26 снежня 1992 года спаўняецца 50 гадоў з таго трагічнага дня, калі ў вёсцы Трыбушкі (цяпер Мірная) Слонімскага раёна гітлераўцы расстралялі 120 мірных жыхароў — мужчын, жанчын і дзяцей. Сёлета ў гэты дзень у вёсцы адбудзецца богаслужэнне па 120 загубленых душах, а таксама сустрэча сыноў, дачок, унукаў і іншых сваякоў загінуўшых.**

**Сустрэча адбудзецца ў доме Марыі Уладзіміраўны СЫШЧУК (Марыі і Яўгена).**

**Усіх, хто можа і жадае, запрашаюць прыехаць на сустрэчу.**

**Абвестку ў газету падала Яўгенія ЮРШО, якая была сведкай трагедыі ў 1942 годзе, а цяпер жыве ў Аўстраліі.**

*У ВАШУ КАЛЕКЦЫЮ*

# ПОШТА ВЫПУСКАЕ НОВЫЯ МАРКІ

Вось і зноў філатэлісты нашай рэспублікі і іх калегі за мяжой дачакаліся новых выпускаў паштовых марак, на якіх напісана «Беларусь». У канцы верасня на Мінскім паштамце сабраліся філатэлісты сталіцы, бліжэйшых гарадоў, госці з Гомеля, Оршы, Магілёва, Лунінца, прыехала некалькі чалавек з Вільнюса: мінская пошта праводзіла чарговае спецыяльнае гашэнне карэспандэнцыі, прысвечанае 1000-годдзю Беларускай праваслаўнай царквы. Упершыню праводзілася гашэнне аж тры дні — 25—27 верасня, і ўвесь час філатэлісты прастойвалі ў доўгіх чэргах. Да юбілею быў выдадзены паштовы блок з адлюстраваннем на яго марцы крыжа Ефрасінні Полацкай, на полі блока полацкая Спаса-




Ефрасіннеўская царква і адна з фрэсак гэтага храма XII стагоддзя, пабудаванага дойлідам Іаанам. На першай марцы Рэспублікі Беларусь была зроблена наддрукоўка: «1000-годдзе Беларускай праваслаўнай царквы». Гэты ж надпіс быў на спецыяльным штэмпелі з адлюстраваннем трох царкоўных купалаў і крыжа. Міністэрства сувязі і інфарматыкі рэспублікі выдала спецыяльны канверт «Першага дня», на малюнку якога паказны план старажытнага Полацка і адзін з храмаў. Новыя паштовыя выпускі па гісторыі нашага краю зоймуць дастойнае месца ў альбомах філатэлістаў.

У сярэдзіне кастрычніка была пушчана ў паштовае абарачэнне новая шасцімарачная серыя мініяцюр, што расказвае аб старажытных архітэктурных помніках рэспублікі. Маркі гэтай серыі шматфарбныя, арыгінальна выкананы.

Серыю адкрывае мініяцюра з адлюстраваннем Камянецкай вежы (гарадскі пасёлак Камянец Брэсцкай вобласці). Белая вежа, Камянецкі слуп — помнік старажытнага абарончага дойлідства, пабудаваная ў XIII стагоддзі архітэктарам Алексай (паводле падання), вядомая далёка за межамі нашай рэспублікі, бо гэта адзінае




падобнага тыпу збудаванне. З 1960 года ў Камянецкай вежы знаходзіцца філіял Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея. На працягу многіх мінулых гадоў праўленне Беларускага таварыства філатэлістаў звярта-




лася ў Міністэрства сувязі СССР і БССР з просьбай аб выпуску паштовага канверта ці маркі з адлюстраваннем унікальнага збудавання, але па невядомых прычынах просьбы заставаліся без адказу. Сёння з задавальненнем наклейваю гэтую марку на канверт, адпраўляючы пісьмо сваім калегам у блізкае і далёкае замежжа.

Больш пашанцавала ў філатэліі Нясвіжскаму замку. Пошта былога СССР прысвяціла гэтаму помніку архітэктуры чатыры канверты, на малюнках якіх дадзены адлюстраванні розных архітэктурных пабудоў замка. Але канверты расказваюць не пра Нясвіжскі замак, а пра санаторый «Нясвіж», размешчаны ў замку з 1945 года. На ўсіх канвертах адзін і той жа надпіс: «Беларуская ССР. Санаторый «Нясвіж». Новая ж марка расказвае аб архітэктурным помніку, закладзеным князем М. Х. Радзі-




вілам Сіроткам у 1583 годзе. Надпіс гаворыць: «Нясвіжскі замак. XV—XIX ст. ст.». У будаўніцтве яго прымаў удзел (да 1599 года) італьянскі архітэктар Я. М. Бернардоні. Замак неаднаразова разбураўся (асабліва ў час руска-шведскай вайны ў 1706 годзе), аднаўляўся (у 1726 годзе архітэктарам К. Ждановічам), перабудоўваўся. На працягу XVIII стагоддзя замак будавалі архітэктары М. Педэці, М. Фларыяновіч, К. Спамкані, А. Лоці, у XIX стагоддзі рэстаўрацыйныя работы вяліся архітэктэрам М. Цэйдзікам.

Аб Мірскім замку яшчэ ў 30-х гадах расказалі філатэлістам паштовыя выпускі Польшчы. Тады была выдадзена марка і паштовая картка з адлюстраваннем замка. Просьбы беларускіх філатэлістаў прысвяціць Мірскаму замку (Гродзенскай вобл.) паштовую марку ці канверт не сустрэлі падтрымкі ў былых міністэрскіх вярхах. На марцы новага выпуску паказаны Мірскі замак — помнік абарончай архітэктуры XVI стагоддзя (гэты замак яшчэ называюць раўнінным), пабудаваны княжацкім родам Ільінічаў. Нейкі час Мірскі замак належаў князям Радзівілам (з 1568 года), затым Вітгенштэйнам і Святаполк-Мірскім. Асады замка ў 1655, 1706, 1794 і 1812 гадах прывялі да значных разбурэнняў гэтай унікальнай пабудовы. Замак неаднаразова рэстаўрыраваўся, але работы так ніколі і не былі даведзены да канца. Апошняя рэстаўрацыя была пачата ў 1969 годзе. Марка, прысвечаная Мірскаму замку, — гэта не толькі напамінак пра наша архітэктурнае багацце, але і дакор нам, сучаснікам, што не змаглі захаваць такое багацце.

Наступная марка прысвечана гродзенскай Барысаглебскай (Каложскай) царкве. Гэты помнік старажытнага дойлідства




быў пабудаваны ў XII стагоддзі ў стылі мясцовай гродзенскай архітэктурнай школы. Хачу адзначыць, што савецкая пошта не песціла філатэлістаў паштовымі выпускамі з адлюстраваннямі культавых пабудоў, а калі і былі такія выпускі, то яны расказвалі пра Дом кіно ў Мінску, а не пра касцёл Сімяона і Алены, ці пра планетарый у Лідзе, а не пра Лідскі Іосіфаўскі касцёл піараў. Толькі ў канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў з'явіліся такія выпускі — канверты з адлюстраваннем Полацкага Сафійскага сабора XI—XVIII стагоддзяў, слуцкай Міхайлаўскай царквы XVIII стагоддзя. Таму марка з адлюстраваннем Барысаглебскай царквы ў Гродне сустрэта філатэлістамі з вялікай цікавасцю.

Чарговая мініяцюра гісторыка-архітэктурнай серыі прысвечана Полацкаму сабору Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра. Пра гэты архітэктурны помнік было сказана вышэй.

На апошняй мініяцюры серыі дадзена адлюстраванне заслаўскай Спаса-Праабражэнскай царквы, пабудаванай у XVI—XVII стагоддзях (г. п. Заслаўе Мінскай вобласці). Царква неаднаразова перабудоўвалася (1678, 1865 гады) і рэстаўрыравалася (1967—1971 гады). У XVII стагоддзі да царквы была прыбудавана мнагаярусная 35-метровая вежа, паказаная на пярэднім плане малюнка маркі. Царква гэтая ўваходзіць у Заслаўскі гісторыка-археалагічны запаведнік.

Новая гісторыя беларускай філатэліі працягваецца.

**Леў КОЛАСАЎ.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.



Газета аддрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 2202.
Падпісана да друку 7.12.1992.